## БАРЫС ГРОМАЎ ВЫСОКА АЦАНІЎ КЛОПАТЫ АБ ВЕТЭРАНАХ У БЕЛАРУСІ

Абмеркаванню патрэб і праблем ветэранаў вайны ў Афганістане і іншых «гарачых кропках» планеты была прысвечана сустрэча прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніком Усерасійскага грамадскага руху ветэранаў лакальных войнаў і канфліктаў, дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расіі Барысам Громавым. Гутарка прайшла 9 лютага ў рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У ходзе яе закраналіся таксама эканамічныя і палітычныя аспекты супрацоўніцтва Беларусі і Расіі ў рамках «саюза двух».

Як паведаміў журналістам пасля сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам Барыс Громаў, у ходзе свайго знаходжання ў Беларусі ён мае намер сустрэцца з кіраўнікамі шэрагу ветэранскіх арганізацый нашай краіны. Размова пойдзе аб наладжванні рэгулярных кантактаў паміж ветэранамі лакальных войнаў з Беларусі і Расіі, аб перадачы беларускімі калегамі свайго вопыту. Барыс Громаў высока ацаніў клопаты аб ветэранах у Беларусі, назваўшы сістэму сацыяльнай абароны, што практыкуецца ў нашай краіне, адной з лепшых у Садружнасці.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

«Мы ведаем і цэнім Вас як чалавека, які здолеў выстаяць ва ўсіх складаных сітуацыях і захаваць многія чалавечыя жыцці», — сказаў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў, сустракаючы 9 лютага Героя Савецкага Саюза прэзідэнта Усерасійскага руху ветэранаў лакальных войнаў і ваенных канфліктаў, дэпутата Дзярждумы Расіі Барыса Громава.

У сваю чаргу Барыс Громаў адзначыў, што яго прыезд у Мінск не выпадковы. Арганізацыя, на чале якой ён знаходзіцца, імкнецца ўсяляк садзейнічаць умацаванню Саюза Беларусі і Расіі. «Для мяне, як і для маіх калег па арганізацыі, бліжэй па духу дзяржавы, чым Беларусь, няма. Тут дыхаецца лёгка і свабодна», — сказаў ён у час сустрэчы з Анатолем Малафеевым.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

## ...ПРАЖЫЦЬ У ГОРАДЗЕ ЗА КОШТ КАЗЫ

**У бабы Марыі ёсць свой бізнес. Яна трымае ў прыватным сектары аднаго з раёнаў Мінска ўласную карміцельку — казу.**

Трэба заўважыць, што ў бабы Марыі ёсць свае дзеці і ўнукі, аднак тыя чамусьці не хочуць ужываць гэты каштоўны прадукт. Не прападаць жа дабру, падумала бабуля, улічваючы, што на ім зараз можна крышку падзарабіць. Зараз каза дае крыху больш за літр у дзень. І атрымлівае наша «камерсантка» ў дзень 15 тысяч рублёў навару. Прыбытак хоць і невялікі, але стабільны. Бабуля не возіць прадаваць яго на Камароўку. Людзі самі прыходзяць да яе дадому. Гэта пераважна маладыя мамы, дзецям якіх урачы рэкамендуюць ужываць казінае малако — як лякарства. Акрамя таго, казінае малако ўрачы рэкамендуюць ужываць пры некаторых захворваннях і дарослым.

У бабулі ёсць агарод, а недалёка ад дому раскінуўся невялікі лужок, на якім летам можна таксама папасвіць казу. Але ўсё ж такі, бадай у цэнтры горада, пракарміць казу вельмі цяжка. Не даюць галадаць казе добрыя суседзі, а таксама кліенты. Хоць пакрысе, але кожны дзень нясуць ёй людзі, хто бульбяное шалупінне, хто цвілы хлеб або прыгарэлую кашу. А ў выніку ў козачкі заўсёды ёсць малако.

Так дзень за днём, рубельчык за рубельчыкам і набягае ў бабы Мар'і за месяц як дадатак да пенсіі 450 тысяч рублёў. Нехта скажа — дробязь, але для кагосьці і гэта грошы.

Каза для бабы Мар'і не толькі крыніца даходу. Яна для яе і сапраўдны сябар, добры таварыш, ды і проста добрая жывая істота. Пастаянныя кліенты таксама для бабулі не толькі пакупнікі. Яны для яе як бы ўжо свае сынкі і дачушкі. Ёй вельмі прыемна пагаварыць са сваімі пастаяннымі кліентамі «за жыццё», расказаць пра сваю маладосць, падзяліцца з імі сваімі радасцямі і трывогамі. У бабулі багаты жыццёвы вопыт, але яна не будзе лезці да цябе ў душу. Каму дасць добрую параду, а іншым разам пасля твайго аповяду толькі ўздыхне. Так і жыве баба Мар'я і гора не ведае. Бо жывё яна разам з людзьмі, якім зараз дапамагае. А людзі дапамагаюць ёй.

**Па малако хадзіў Сяргей КУРКАЧ.**

## БЕЛАРУСЬ—ПОЛЬШЧА: ПОШУК ШЛЯХОЎ УРЭГУЛЯВАННЯ РОЗНАГАЛОССЯЎ

**Канец мінулага і пачатак гэтага тыдня вызначаўся дыпламатычнай актыўнасцю афіцыйнага Мінска і Варшавы. У пятніцу прыйшла нота ад МЗС Польшчы. У ёй, як паведамілі ў прэс-службе МЗС Беларусі, Польшча запэўнівае беларускі бок у сваім жаданні Польшчы захоўваць добрасуседскія адносіны і выказвае надзею на хуткае ўрэгуляванне непаразуменняў. Падкрэсліваецца актуальнасць маючага адбыцца візіту міністра замежных спраў Польшчы Браніслава Герэмека ў Беларусь. У той жа дзень пан Герэмек правёў прэс-канферэнцыю, дзе тэма Беларусі гучала шырока. У панядзелак Ніна Мазай, намеснік міністра замежных спраў, тэрмінова вылецела ў Варшаву для перагавораў.**

Новым нечаканым аргументам у спрэчках паміж Мінскам і Варшавай з'явілася абвінавачанне ў друку старшынёй КДБ Уладзімірам Мацкевічам польскіх спецслужбаў у мэтанакіраванай, пастаяннай і ўсё ўзрастаючай шпіёнскай дзейнасці супраць Беларусі. Яны living рознымі метадамі, у тым ліку і бруднымі, займаюцца вярбоўкай нашых грамадзян на тэрыторыі Польшчы. Самае трывожнае ў гэтай актыўнасці тое, што яна вядзецца ў інтарэсах і пад кіраўніцтвам трэціх краін і набывае маштабы, якія пагражаюць нацыянальнай бяспецы нашай краіны.

Можна толькі здагадвацца, якія прычыны падштурхнулі галоўнага чэкіста Беларусі адкрыта выступіць з падобнымі прызнаннямі і высновамі. «Подковерная» і нябачная звычайным людзям барацьба разведак і контрразведак пераважнай большасці краін свету ўжо даўно стала руціннай працай спецыфічных дзяржаўных структур. Іх кіраўнікі звычайна рэдка дзеляцца ўражаннямі аб ходзе спраў на тым ці іншым накірунку работы з шырокай публікай. На яе яны па сваёй ініцыятыве «выходзяць», калі сапраўды неабходна падтрымка грамадскай думкі або ўзніклі іншыя абставіны. У. Мацкевіч выступіў. Няўжо сапраўды палякі нас «дапяклі»?

Так гэта ці не, але пасля яго прызнанняў у стракатую палітру беларуска-польскіх адносінаў унесены новыя рэзкія фарбы. Польскі бок павінен адрэагаваць на абвінавачванні.

У дыпламатычным канфлікце з Варшавай неспрыяльным момантам для нашага боку з'яўляецца тое, што Польшча на бліжэйшы тэрмін выконвае функцыі старшыні ў АБСЕ. І не варта спадзявацца на тое, што яна не паспрабуе выкарыстаць часовыя перавагі свайго становішча ў гэтай буйной міжнароднай арганізацыі. Нездарма яе сённяшні старшыня польскі міністр замежных спраў Браніслаў Герэмек заявіў журналістам у Варшаве, што ён хоча прыехаць да нас як высокапастаўлены прадстаўнік АБСЕ. Нагадаем: у Мінску яго чакаюць у першую чаргу ў якасці кіраўніка знешнепалітычнага ведамства, каб вырашыць шэраг наспелых вострых пытанняў.

Вельмі хацеў бы памыліцца, але, на мой погляд, у той сітуацыі, якая склалася, пан Герэмек у бліжэйшы час да нас наўрад ці прыедзе. Польшча, што не выключаецца, нават пойдзе на непрацяглае абвастрэнне адносінаў з Беларуссю, каб гэткім чынам паставіць афіцыйны Мінск «на месца» і паралельна набраць ачкоў у Заходняй Еўропы, дзе з немалой падазронасцю сочаць за арыфметычнымі пераўтварэннямі на прасторах СНД — утварэннем міждзяржаўных «двоек», «чацвёрак».

Апошнім часам Польшча выбілася ў фаварыты Еўрапейскага саюза. Яе там ужо пачалі называць першым «эканамічным тыграм» Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Да бурных тэмпаў развіцця паўднёва-азіяцкіх «тыграў» ёй яшчэ вельмі далёка, але чуць кампліменты пра сябе з вуснаў «старэйшага брата», якім сёння для Польшчы з'яўляецца ЕС, прыемна. Заходняя Еўропа, калі меркаваць па інфармацыі У. Мацкевіча, заахвочвае польскага «тыгра» час ад часу дэманстраваць свае «кіпцюры» былому «старэйшаму брату» — некалі СССР, а цяпер Расіі.

Няпростыя, мякка кажучы, адносіны Польшчы з Расіяй ужо не адно стагоддзе ніяк не могуць канчаткова вырашыцца. Застарэлыя крыўды палякаў на расіян няхай і міжвольна, але адбіваюцца і на Беларусі, бліжэйшым паплечніку і саюзніку Расіі. Не думаю, што кіраўніцтва сучаснай Польшчы ў захапленні ад таго, што Беларусь лёгка пайшла на цеснае збліжэнне з Расіяй, ахвотна супрацоўнічае з ёй ва ўсіх сферах, у тым ліку і ў ваеннай. Наш саюз з Расіяй, як мне здаецца, перашкаджае таму ж польскаму МЗС успрымаць Беларусь як суверэнную незалежную дзяржаву. Не сумняваюся, што там лічаць яе васалам Масквы і адсюль адпаведнае стаўленне да нас.

Акрамя таго, паміж Беларуссю і Польшчай, як любяць гаварыць чыноўнікі, не напрацаваны вопыт міждзяржаўных і міжурадавых зносінаў. У новай гісторыі, наколькі я ведаю, усе сур'ёзныя справы з Польшчай за Беларусь вяла Масква. Так, быў кароткі тэрмін пасля заканчэння грамадзянскай вайны і да стварэння СССР, калі Мінск самастойна падтрымліваў дыпламатычныя адносіны з Германіяй і Польшчай. У 1944 г. было падпісана польска-беларускае пагадненне паміж Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення і ўрадам БССР аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і палякаў з Беларусі. Але далей усе адносіны з гэтай краінай рэгуляваліся ў адпаведнасці з польска-савецкімі дамоўленасцямі, у выкананні якіх Беларусь адыгрывала пасіўную ролю.

Папярэдні вопыт, безумоўна, важны, але ў сённяшніх умовах наўрад ці можна лічыць яго дастатковым для сур'ёзных двухбаковых адносінаў. Грунтоўнае стварэнне іх нарматыўна-прававой базы пачалося адразу пасля развалу СССР. За гэты час шмат чаго зроблена, але, як паказваюць апошнія падзеі, гэта не застрахавала ад непаразуменняў. «Прыцірка» Польшчы з беларускім суседам у яго новай для палякаў якасці самастойнага суб'екта міждзяржаўных адносінаў ідзе няроўна.

Дадзеная канфліктная сітуацыя яшчэ не прайшла свой пік. Высокапастаўленыя асобы з абодвух бакоў, якія адказваюць за яе вырашэнне, з часам знойдуць шляхі яе ўрэгулявання. Будзем спадзявацца, што беларускія і польскія дыпламаты дапамогуць ім у гэтым. Ад іх сёння многае залежыць. Для нашага МЗС, пасольства ў Варшаве гэты канфлікт яшчэ і своеасаблівы экзамен на сталасць. Палітычныя, эканамічныя, прававыя і нават культурныя рознагалоссі паміж дзяржавамі ўзнікаюць амаль пастаянна. І даволі часта ўмелая работа дыпламатаў за сталом перагавораў знімае напружанне. Знаходзіліся кампрамісы, узаемапрымальныя рашэнні — і добрыя адносіны зноў аднаўляліся.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

**Вам адкажа беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі Вячаслаў Віктаравіч ЛЮБАВІЦКІ**



Парушэнні правілаў каравульнай службы, карыстання зброяй, рукапрыкладства, хабарніцтва, нестатутныя адносіны, крадзеж маёмасці, зброі і боепрыпасаў, ухіленне ад воінскай службы -- усё гэта, на жаль, прысутнічае пакуль у беларускім войску. І, як гэта ні крыўдна, адбіваецца на выкананні грамадзянскага абавязку сынамі многіх нашых чытачоў.

**Пра ўсё гэта вы, паважаныя чытачы, зможаце пагутарыць з беларускім ваенным пракурорам Вячаславам Віктаравічам ЛЮБАВІЦКІМ. «Прамая лінія» з яго ўдзелам адбудзецца 17 лютага з 14 да 15 гадзін. Задаць пытанні генерал-маёру юстыцыі ў гэты час можна па тэлефонах: (8-017) 232-38-21; 232-38-92. А таксама пішыце, калі ласка, на адрас рэдакцыі газеты «Звязда».**

## Пра што марыць мастак у 70 гадоў?

Кажуць, што 70 — гэта восень жыцця. У мастака Уладзіміра Стальмашонка «восень» неяк непрыкмет перайшла ў «лета». Калі вобразна, то восень яго цёплая, радасная, напоеная пахамі і колерамі веснавых кветак і жніўеньскага лагоднага буяння прыроды, сагрэтая любоўю блізкіх людзей.



Наракаць на лёс яму, напэўна, не трэба. Атрымаўшы добрую мастацкую адукацыю ў Санкт-Пецярбургу, У. Стальмашонак яшчэ зусім маладым чалавекам пачынае выкладаць у Беларускай акадэміі мастацтваў. За амаль 40 гадоў у мастацтве зроблена нямала. Дзесяткі жывапісных і графічных партрэтаў сучаснікаў і дзеячаў мінулых эпох, вітражы ў Літаратурным музеі Янкі Купалы і Доме літаратара ў Мінску, якія і цяпер радуюць вока наведвальнікаў, мазаічныя пано на станцыі «Маскоўская» Мінскага метрапалітэна (сумесна з В. Даўгала), роспісы і размалёўкі ў грамадскіх установах па ўсёй рэспубліцы... Творы, напісаныя У. Стальмашонкам у 90-я гады, можна будзе пабачыць на вялікай выставе, што адбудзецца 12 сакавіка ў Мастацкім музеі Беларусі. Як кажа Уладзімір Іванавіч, сярод іх будзе некалькі партрэтаў Радзівілаў, пейзажы, сюжэтныя карціны. Але гэтай вялікай выставе, з якой зможа пазнаёміцца шырокая публіка, папярэднічала яшчэ адна, якая адбылася ў гасцёўні Уладзіслава Галубка, што ў Траецкім прадмесці сталіцы.

...У камернай экспазіцыі, куды ўвайшлі трохі больш за трыццаць работ майстра, партрэты алоўкам, алеем шматлікіх кабет і старых, маладзіц і дзяцей з прозвішчам Стальмашонак, альбо паяднаных з гэтым родам. На бачным месцы — вясковы пейзаж «Бацькоўская хата» — тут нарадзіўся мастак.

— Я вырашыў зрабіць такую выставу не выпадкова, — сказаў У. Стальмашонак на вернісажы. — Хаця яна магла б быць яшчэ большай, бо я даволі часта рабіў накіды алоўкам, маляваў партрэты знаёмых, сяброў і дарыў іх ім. А тыя работы, што можна ўбачыць на цяперашняй выставе, былі таксама падараваныя родным з той ці іншай нагоды.

Цікава, што амаль што ўсе сваякі і родныя, якіх у свой час маляваў У. Стальмашонак, прысутнічалі на вернісажы «жыўцом», дэманструючы непахісную маналітнасць роду і трываласць сваяцкіх сувязяў. За старэйшыну цяпер у Стальмашонкаў Сямён Майсеевіч — дзядзька Уладзіміра Іванавіча. Сямёну Майсеевічу 85 гадоў, але ён у добрай форме. Сямён Майсеевіч не абы якое жыццё пражыў: быў дырэктарам першай МТС у Беларусі, партызаніў у час вайны.

Надзвычай цікавай і перспектыўнай бачыцца ідэя такой сямейнай, радавой выставы, сфарміраванай Уладзімірам Стальмашонкам, можа быць, спантанна. Гісторыя Беларусі — гэта не толькі гісторыя славутых і вядомых шляхецкіх радоў, але і людзей больш простага звання — земляробаў, рамеснікаў, музыкантаў і спевакоў.

**Таццяна АНТОНАВА.**



## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

### 10 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Найлепшы дзень для вучэння, набыцця інфармацыі і зносінаў. Спрыяльны час для паездак і падарожжаў, грашова-фінансавых аперацый. Новыя знаёмыя могуць стаць для вас цікавымі і карыснымі. Будзьце гасціннымі. Імкніцеся больш часу праводзіць на прыродзе, менш знаходзіцца ў памяшканнях. Пажадана заняцца фізічнымі практыкаваннямі на свежым паветры. Процілаказана курэнне. Нельга галіцца і стрыгчыся. Жанчынам не трэба карыстацца касметыкай. З другой паловы дня не глядзіцеся ў люстэрка. Не рэкамендуецца галадаць. У ежы адмоўцеся ад салодкага і горкага, карысныя салёныя прадукты.

**АДЗЕННЕ**. У гэты дзень лепш не апранаць шмат адзення. Рэкамендуюцца блакітны, сіні і залацісты колеры. Адмоўцеся ад зялёных і карычневых тонаў.

**ПРЫМЕТЫ**. Калі вы тройчы ўбачыце на небе воблака адной формы, прыміце гэта як знак хуткай перамены ў жыцці. Падзенне з любой вышыні — знак апаганення. Калі ў вас нешта загараецца ў гэты дзень, будзьце ўважлівыя: вас папярэджваюць аб вашым няправільным жыцці; лепш пакаяцца.

**СНЫ**. Бачыць неба, зоркі — да ўдачы. Бачыць сябе голым — знак ачышчэння. Дрэнна бачыць сон, у якім вы некуды правальваецеся — да няўдачы.

**МЕДЫЦЫНА**. Спрыяльны час для засваення лякарстваў. Добра лячыць сасудзістыя захворванні, нервовую сістэму, вочы, галёнкі і хваробы суставаў. Процілаказаныя нагрузкі на сэрца і спіну. Не рэкамендуюцца фізічныя практыкаванні.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

### *Дарэчы,*

***авестыйская рэспубліканская Беларуская асацыяцыя запрашае чытачоў «Звязды» на сустрэчу са знакамітым астролагам.***

***ПАВЕЛ ГЛОБА зробіць свой прагноз на 1998 год — год здзяйснення старажытных прароцтваў.***

***Нябесныя знакі, «Цэнтурыі» Настрадамуса, радкі «Адкрыццяў» Іаана Багаслова — усё ўказвае на гэты год.***

***Сустрэча адбудзецца 12 лютага ў 18 гадзін 30 хвілін у кіназале Цэнтральнага Дома афіцэраў.***

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**У ІРАКА ЗАСТАЕЦЦА ЎСЁ МЕНШ ЧАСУ**

У Ірака застаюцца тыдні, а не месяцы, каб саступіць і пазбегнуць ваеннага канфлікту. Пра гэта заявіла дзяржсакратар ЗША Олбрайт. Яна падкрэсліла, што магчымыя бомбавыя ўдары па Іраку будуць надзвычай адчувальнымі. Міністр абароны ЗША Коін заявіў, што яго дзяржава не будзе прасіць дазволу ў Саудаўскай Аравіі на выкарыстанне ваенных баз, якія ёсць у гэтай краіне, для нанясення ўдараў па Іраку. Падобныя дазволы ўжо далі Кувейт і Бахрэйн. Раней Коін паведаміў пра тое, што ў ЗША ёсць доказы таго, што Ірак не знішчыў поўнасцю свае запасы біялагічнай і хімічнай зброі, як таго патрабуе рэзалюцыя ААН.

**РАСІЙСКІ ГУМАНІТАРНЫ ГРУЗ ІРАКУ «ЗАВІС» У ЕРЭВАНЕ**

Расійскі самалёт з дэпутатамі Дзярждумы і грузам гуманітарнай дапамогі Іраку ўчора яшчэ заставаўся ў Ерэване ў чаканні згоды камісіі па санкцыях супраць Ірака на рэйс у Багдад. Іран, чыю паветраную прастору павінен перасячы самалёт на шляху ў Ірак, не можа даць згоду без гэтага дазволу. Як заявіў учора намеснік расійскага МЗС Іваноў, дэпутаты былі праінфармаваны аб тым, што пытанне аб вылеце завісла, аднак настаялі на вылеце ў Ерэван.

**СПЫНЕНА ГАЛАДОЎКА ДЗЯЦЕЙ**

У Хабараўскім краі спынена галадоўка дзяцей золатаздабыччыкаў, якія далучыліся да сваіх бацькоў, што пратэставалі супраць нявыплаты запазычанасці па зарплаце. Акцыя пратэсту дзяцей працягвалася суткі, пасля чаго ўлады абяцалі выплаціць частку грошай. 18 супрацоўнікаў прадпрыемства «Ніжні Амур—золата» па-ранейшаму бастуюць, патрабуючы выдаць зарплату.

*Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё Расіі».*

## РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ВАЛОДАЕ ДЗВЮМА ТОНАМІ ЗБРОЕВАГА ПЛУТОНІЮ І ВЫСОКААБАГАЧАНАГА ЎРАНУ

**Такая сенсацыйная заява была зроблена 8 лютага ў вячэрняй інфармацыйна-аналітычнай праграме Беларускага тэлебачання «Рэзананс».**

Гэты факт, на думку вядучага «Рэзананса» Аляксандра Зімоўскага, «пры жаданні» цалкам дазваляе крыху змяніць статус Беларусі як дзяржавы, паколькі краіны, якія валодаюць пэўнай колькасцю якой-небудзь расшчапляльнай сыравіны, на мове міжнародных экспертаў называюцца «каляядзернымі», або «пароговымі».

«Статус каляядзерных дзяржаў, — скажам, Пакістана, Індыі або Ізраіля, вядома, не прадаецца з меркаваннямі нацыянальнай бяспекі, але адзін Бог ведае, колькі плацяць гэтым краінам, каб яны так і не перайшлі парог ядзернага клуба», — заявіў вядучы праграмы.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

**Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне суддзі суда Ленінскага раёна г. Мінска Жулкоўскай Таццяне Васільеўне з выпадку напаткаўшага яе цяжкага гора — трагічнай смерці МАЦІ і ДВАІХ ДЗЯЦЕЙ.**



## ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

### Шэф мае рацыю!.. Калі не аспрэчвае Закон

*«У час майго штогадовага водпуску захварэў сын, якому 10 гадоў, і мне выдалі бальнічны ліст. Я спадзяваўся, што на час, указаны ў ім, мне падоўжаць водпуск. Але адміністрацыя адмовілася гэта зрабіць. Ці мае яна рацыю?»*

У гэтым выпадку — так. Калі ў перыяд штогадовага водпуску захварэе сам работнік (што пацвярджаецца бальнічным лістом), водпуск яму могуць або падоўжыць, або перанесці на іншы тэрмін. (Гэта прадугледжана ч. 2 арт. 74 КЗаП Рэспублікі Беларусь). Калі ж у перыяд гэтага водпуску захварэў член сям'і і работнік даглядае яго, гэта правіла не прымяняецца.

*«Я працую ў невялікай прыватнай фірме. Хачу паступіць у інстытут і вучыцца завочна. Чула, што ў мяне могуць быць праблемы, калі не папрашу згоды ў кіраўніка фірмы».*

Так, аб умовах вучобы вам варта паклапаціцца загадзя. І калі права вучыцца без адрыву ад вытворчасці не прадугледжана калектыўным дагаворам, папрасіце ў наймальніка накіраванне на вучобу (яно называецца заяўка наймальніка) або заключыце з ім асобны дагавор (на падрыхтоўку). Дарэчы, такія ўмовы могуць быць прадугледжаны і ў працоўным дагаворы, кантракце, напрыклад. У такім выпадку ў вас праблем з вучобай не будзе. У адпаведнасці з арт. 199 КЗаП Рэспублікі Беларусь, пры ўмове паспяховай вучобы вам абавязаны будуць прадастаўляць усе льготы, прадугледжаныя КЗаП, у тым ліку і «вучэбныя» водпускі з захаваннем сярэдняй заработнай платы за час гэтых водпускаў.

*«Я працую па кантракту. Тэрмін заканчэння кантракта прыпадае на нерабочы дзень (суботу). Атрымліваецца, што са мной павінны падоўжыць кантракт, таму што ні ў суботу, ні ў нядзелю я не магу атрымаць працоўную кніжку і разлік?»*

Кантракт вам падаўжаць не трэба. Згодна з законам (п. 3 арт. 6 КЗаП Рэспублікі Беларусь), калі апошні дзень тэрміну працоўнага дагавора прыпадае на нерабочы дзень, то днём заканчэння тэрміну лічыцца бліжэйшы наступны за ім рабочы дзень. Тэрмін вашага кантракта закончыцца ў панядзелак.

**Падрыхтавала Наталля ДОЎНАР.**

## Крах аднаго «СП»

**Паводле інфармацыі прэс-службы УКДБ па Гродзенскай вобласці, супрацоўнікамі дзяржбяспекі выяўлены міжнародны канал па кантрабанднаму вывазу за мяжу антыкварыяту, іншых гістарычных і мастацкіх каштоўнасцяў.**

У «сумеснае прадпрыемства» (а на мове следства — у арганізаваную злачынную групу), якое, зразумела, нідзе не зарэгістравана, уваходзілі расійскія, беларускія і польскія грамадзяне. Прадметы даўніны паступалі з Расіі і перамяшчаліся ў Польшчу праз адну з пагранічных застаў на Гродзеншчыне.

На гэтых фотаздымках — толькі невялікая частка кантрабанднай партыі гістарычных і мастацкіх каштоўнасцяў. А ўвогуле да незаконнай транспарціроўкі за мяжу было падрыхтавана каля 100 ікон, звыш 350 прадметаў антыкварыяту, геральдычных знакаў, старадаўніх ордэнаў і медалёў, а яшчэ — гадзіннікі, агнястрэльная і халодная зброя. Паводле папярэдніх ацэнак, агульны кошт гэтых каштоўнасцяў складае каля мільярда рублёў.

Узбуджана крымінальная справа. Арыштавана сем чалавек, у тым ліку адзін ваеннаслужачы пагранвойскаў, які забяспечваў злачыннай групе прыкрыццё. На жаль, ён не захацеў браць прыклад са сваіх калег, якія спынілі ўжо не адну кантрабандную аперацыю з прадметамі даўніны.

**Кар. «Звязды».**

*«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»*
*268-27-51, 268-27-57*

## ГОЛАД — НЕ ЦЁТКА, АЛЕ...

Да нас звярнуліся прадстаўнікі аддзела народнай адукацыі Партызанскага раёна Мінска. Уся справа ў тым, што, у адпаведнасці з пастановай № 32—22/20 за подпісам Галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Партызанскага раёна І. Першына, з 16 лютага 1998 года прадпісваецца забараніць арганізацыю навучальнага працэсу 5—11 класаў пасля чатырох вучэбных гадзін без гарачага харчавання ў гімназіі № 5 і школе-гімназіі № 54. Вось так, здаецца, усё проста і ясна — забяспечце, а то мы вас проста зачынім. Усе бацькі, ды і адміністрацыя гэтых устаноў знаходзяцца амаль у шокавым стане — як распараджэннем можна паставіць крыж на арганізацыі навучальнага працэсу? Незразумела, чым карысталіся санітарныя службы — адміністрацыя гімназіі № 5 і школы-гімназіі № 54 не атрымалі патрэбнай інфармацыі на гэты конт.

«Адначасова хацелася б звярнуцца да Міністэрства адукацыі і Міністэрства аховы здароўя, — зазначыла ў гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» дырэктар школы-гімназіі № 5 Людміла Карагіна, — як можна такімі метадамі прымушаць бацькоў здаваць грошы на харчаванне школьнікаў? У нас у гімназіі з 740 навучэнцаў 142 пакутуюць ад страўнікава-кішачных захворванняў, яны ж не могуць атрымліваць абеды разам з усімі. Таксама ёсць дзеці, бацькі якіх проста не ў стане заплаціць за арганізацыю школьнага харчавання — абеды ў нас каштуюць 16—20 тысяч рублёў, у месяц такім чынам атрымліваецца 400 тысяч рублёў. А калі ў сям'і двое дзяцей-школьнікаў?..»

Гімназія № 5 забяспечвае кожнага свайго навучэнца як мінімум чаем з бутэрбродам, для гэтага ў кожным класе маецца самавар ці электрычны чайнік і класныя кіраўнікі на перапынках гатуюць дзецям каву або гарбату. Да таго ж уся школа атрымлівае экспрэс-снеданні. Гэта бясплатна. Планавалася арганізаваць нешта падобнае і для 5—11 класаў, але ў гарадскім бюджэце не знайшлося патрэбных сродкаў, таму, напэўна, улады вырашылі прымяніць «сілавыя метады».

Прыкладна такія ж з'явы адбываюцца і ў профільных класах агульнаадукацыйных школ, калі класныя кіраўнікі пад пагрозай расфарміравання класа прымушаюць навучэнцаў здаваць грошы ў сталоўку. Чым гэта абгрунтавана? Напэўна, зноў жа адсутнасцю сродкаў у бюджэце для арганізацыі гарачага харчавання для кожнага школяра. Але ці магчыма прымяняць такія метады?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***P. S. Як патлумачылі нам у школьным аддзеле цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Партызанскага раёна Мінска, пастанова, якая датычыцца прыпынення навучальнага працэсу ў гімназіі № 5 і школе-гімназіі № 54, складзена ў адпаведнасці з «Санітарнымі правіламі ўладкавання і ўтрымання агульнаадукацыйных школ», што былі прыняты ў 1996 годзе. Згодна з гэтым дакументам, у тым выпадку, калі ўсе навучэнцы не забяспечаны гарачым харчаваннем, прымяняюцца меры пакарання. Толькі вось ці апраўданы такія меры? На думку спецыялістаў Міністэрства адукацыі, патрабаваць, каб усе бацькі здавалі грошы ў сталоўку, адміністрацыя навучальных устаноў проста не мае права. Але ж санітарныя ўстановы жорстка патрабуюць забяспечыць гарачае харчаванне. Якім чынам? Незразумелае і рашэнне аб закрыцці школы. Хто ў гэтым выпадку панясе... страты?..***

## ...ПАЙСЦІ З ЖЫЦЦЯ МНЕ ЗАГАДАЎ ПРЫВІД

**Спярша — пра факты. Вельмі ж ужо яны ўражальныя. З катэгорыі тых, што прымушаюць трывожна задумацца. Факты ўсе пра адно — пра самазабойствы, учыненыя вайскоўцамі. Дарэчы будзе звярнуць увагу на наступнае. Калі ў войску здараецца самазабойства, то прычыны звычайна хаваюцца ў мікраклімаце, што пануе ў воінскім калектыве, у падраздзяленні. Пачынаецца расследаванне — і на паверхню ўсплываюць «дзедаўшчына» і іншае. А вось у прыкладах, пра якія збіраемся распавесці, — прычына смерці звязана заўжды з... духоўным светам, духоўным станам самазабойцаў (мо трэба пісаць «антыдухоўным»?).**

Летась на пасту ў каравуле выстралам з аўтамата пазбавіў сябе жыцця ваеннаслужачы тэрміновай службы радавы Павел Кавалік. Здавалася б, ніякіх знешніх прычын для трагедыі не было. За адзін год салдат меў пяць заахвочванняў па службе і — ніводнага пакарання. Да службовых абавязкаў адносіўся добрасумленна. Са службоўцамі, як сведчаць характарыстыкі, меў роўныя адносіны. Але ўжо пасля таго як здарылася бяда, разам пачалі сыходзіцца, збірацца вядомыя і невядомыя да гібелі факты. З даармейскіх захапленняў Паўла — замежная музыка містычнай накіраванасці, удзел у групе «панкаў», якія рэгулярна збіраліся ў сталічным парку імя Горкага. На юнацкіх здымках Кавалік вызначаецца надзіва экстравагантным выглядам (доўгія валасы, парваныя, разрэзаныя штаны, вопратка з адлюстраваннем надмагільных крыжоў, «пентаграм»). Высветлілася, што неаднойчы Павел выказваўся на тэму «жыццё пасля смерці», пра магчымасці віртуальнага пераўвасаблення ў прасторы і часе...

Зазірнулі ў сшыткі самазабойцы — па-мастацку аформленыя надпісы, дзе і назвы некаторых заходніх музычных груп яўна дэструктыўнай накіраванасці, як, прыкладам, «Мёртвы анёл», «Рассечаныя нервы» і г. д. Пачалі размаўляць са старэйшым братам Каваліка, адразу высветлілася, што хлопец вёў размовы пра магчымае самазабойства як сродак перамяшчэння душы на «наступны ўзровень».

Пакуль не будзем рабіць ніякіх высноў. Звернемся да наступных фактаў. Напрыканцы леташняга года зрабіў спробу самазабойства (праз павешанне) радавы Міхаіл Рукоўскі. Салдата хутка знайшлі, даставілі ў шпіталь. Праз некалькі дзён Міхаіл усё ж такі памёр. Маці салдата пасведчыла: сын яе неаднойчы выказваў жаданне завяршыць жыццё самагубствам. Вядома, што Рукоўскі захапляўся фантастыкай, апісаннем замагільнага жыцця.

І яшчэ адно леташняе самазабойства. На світанні выстралам з пісталета «ПМ» пазбавіў сябе жыцця старшы лейтэнант Ігар Кармачоў. Па пасадзе — камандзір узвода. Халасцяк. Жыў у афіцэрскім інтэрнаце часці. Ізноў жа як службовец — чалавек станоўчы. Што здарылася? Чаму і ён, дарослы ўжо чалавек, афіцэр, які сам павінен выхоўваць падначаленых, адказваць за іх жыцці, так лёгка пазбавіў жыцця сам сябе? Расследуючы акалічнасці трагедыі, знайшлі запіску маладога афіцэра. Ёсць у ёй і такія словы: «Прычына маёй смерці ўва мне самім, а не ў знешніх фактарах». І далей Кармачоў піша, што ён нежыццяздольны і што калі б нават ён застаўся жыць, то ўсё адно закончыў бы жыццё альбо ў вар'яцкім доме, альбо ў турме. Шукаў Кармачоў і выйсце, звяртаўся да Бога, але гэта не дапамагло. У запісцы — і просьба даследаваць яго галаўны мозг на прадмет магчымай паталогіі.

Яшчэ адзін факт з сумнага шэрагу. Факт, праўда, зусім свежы. З сёлетняга студзеня. Выстралам з аўтамата пазбавіў сябе жыцця і пайшоў у іншы свет радавы Ігар Буркоўскі. На месцы здарэння знойдзены «Новы запавет», «Псалтыр» і таксама запіска. Салдат просіць нікога не вінаваціць, паведамляе пра тое, што пайсці з жыцця яму загадаў прывід, з якім ён аднойчы спаткаўся.

Маралізатарстваваць з нагоды прыведзеных фактаў няма ніякай ахвоты. Па-першае, для пайшоўшых з жыцця — гэта ўжо непатрэбшчына. Для калектываў, людзей, якія побач з самазабойцамі працавалі, служылі, жылі звычайным будзённым жыццём, — таксама наўрад ці патрэбна... І старшы лейтэнант, і салдаты крымінальнікамі-парушальнікамі сябе ў калектыве не выяўлялі. І не так ужо лёгка ў наш час разладжанасці, замкнутасці, засяроджанасці чалавека на самім сабе спадзявацца на шчырасць і адкрытасць.

Але і маўчаць немагчыма. Відавочна, выпадкі суіцыду — водгук на расхрыстанасць духоўнай сферы, прычына страты духоўнага стрыжня ў грамадстве, духоўнага стрыжня асобы. У вайскоўцаў, якія добраахвотна развіталіся з жыццём, прысутнічала цяга да містычнага, зарыентаванасць на новыя, скажам так, рэлігійныя разгалінаванні.

У беларускім войску праведзена сацыялагічнае даследаванне. Згодна з атрыманымі данымі, акрамя прыхільнікаў каталіцкай і праваслаўнай веры, да 5 працэнтаў ваеннаслужачых адносяць сябе да хрысціян веры евангельскай. Каля 1 працэнта — да евангельскіх хрысціян-баптыстаў. І таксама каля 1 працэнта — да акультна-містычных груп. Здавалася б, сучасная рэлігійная сітуацыя, калі меркаваць па гэтых невялікіх працэнтах, хвалявання асаблівага выклікаць не павінна.

І ўсё ж... Ад розных па якасці працэнтаў розная залежнасць. Тым болей, што спробы ўплыву на грамадства ў значнай ступені праяўляюць якраз нетрадыцыйныя для Беларусі рэлігіі. Пад выглядам дабрачыннасці і місіянерскай дзейнасці мае месца спроба распаўсюджвання псеўдарэлігійных, антынавуковых тэорый і ідэй, якія пры пэўных умовах могуць спрыяць сур'ёзнай дэфармацыі і змяненням духоўнага свету чалавека. Летась місіянеры-неакульты спрабавалі распачаць сваю працу і ў войску.

Маўкліва сузіраючы выразны рост усякіх сектаў, дагэтуль не зусім уласцівых славянскім народам увогуле і беларусам у прыватнасці, мы неўпрыкмет можам аказацца перад выразнай тэндэнцыяй сапраўды абездухоўленасці моладзі. Мала таго што духоўнасць душаць, бяруць у моцныя ціскі камерцыйна-эканамічныя фактары, дык яшчэ вось гэта — рэлігійны, ці хутчэй антырэлігійны, наступ... Якім чынам, якім шляхам ратавацца ад усяго гэтага?.. Дарэчы, леташняе сацыялагічнае даследаванне паказала таксама і тое, што каля 30 працэнтаў апытаных вераць у звышнатуральныя сілы, каля 20 — у рэальнасць замагільнага жыцця, болей як 15 працэнтаў — у касмічны разум, каля 20 працэнтаў — у астралагічныя прагнозы, дапамогу магіі і замоў. Многа гэта ці мала? Баяцца гэтага ці не? Абмяжоўваць дзяцей ад інфармацыі такога кшталту ці не?.. Досыць складаныя пытанні, якія ўслед за іх агучваннем ставяць безліч праблем перад дзяржавай, яе ўладнымі інстытутамі. Перад грамадствам. Перад сродкамі масавай інфармацыі і іх гаспадарамі... Але ці не ў першую чаргу — перад сям'ёй, перад бацькамі, перад чалавекам-адзінкай, ад рашучага выбару якога таксама ці найперш залежыць, у якім і наколькі духоўным свеце нам жыць заўтра.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***P.S.** Як пасляслоўе — прозвішчы самазабойцаў зменены. Кожны з іх — дзіця, член сям'і. І якая ж сям'я пажадала б ім такое наканаванне...*

## «...дзе грошы ляжаць»

**У буйную суму вылілася бесклапотнасць жанчыне, якая (колькі ўжо можна аб гэтым гаварыць!) на званок у кватэру адчыніла дзверы а палове дзесятай раніцы.**

У калідор уварваліся двое невядомых. Не даўшы апамятацца жанчыне, якая знаходзілася ў водпуску па догляду за дзіцем, рабаўнікі надзелі ёй на рукі наручнікі, а вочы і рот заляпілі клейкай стужкай. Здабыча зладзеяў чакала багатая: налётчыкі забралі з сабой 27 тысяч долараў ЗША, 40 тысяч нямецкіх марак і ключы ад кватэры. Пазней ахвяра невядомых звярнулася ў Смаргонскі ГРАУС па дапамогу. Аднак пакуль знайсці рабаўнікоў не ўдалося.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікія ападкі, у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — 1—3, Магілёве, Гомелі — 2—4, Мінску — 3—5, Гродне — 4—6, Брэсце — 5—7 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, месцамі невялікія ападкі, туман. Тэмпература ўначы — плюс 3—мінус 2, удзень — 1—6 градусаў вышэй нуля.

## Нежаночы твар вайны вачыма адной жанчыны

# ЯЕ ЭШАЛОН

**НЕМАЛАДАЯ ЎЖО ЖАНЧЫНА**, якую апошнія гадзіны наогул ператварылі ў бабулю, стаяла на пагорку і глядзела, як хударлявая постаць дачкі становіцца ўсё меншай і меншай. У нейкі момант ногі самі падагнуліся і яна ўпала на калені, галосячы-молячыся: «Прасвятая ўладычыца, ты аддала свайго на муку, не аддай жа маё дзіцятка...» А дачка толькі адзін раз азірнулася, паправіла на плячы пад ватоўкай аўтамат і паскорыла хаду да блізкага ўжо лесу...

«Так і пайшла. Мама немым голасам крычала, а я — як жалезная была. Не пацалаваліся, не развіталіся як след. Але тую маміну малітву пранесла я праз усё жыццё. Гэта яна мяне ўвесь час ахоўвала і ад кулі, і ад палону. Не таму, што ўдачлівая, не таму, што лёс такі, — таму, што мама за мяне ўвесь час малілася, вось я жывая і засталася...» Ніна Максімаўна з пяшчотай глядзіць на фота маці, якой даўно ўжо няма. «Колькі яна, бедная, перажыла за мяне тады. Але ніколі не адгаворвала, бо ўсе мы ведалі: інакш нельга...»

■

Самы страшны кашмар майго дзяцінства (ён і зараз не-не дый прысніцца) — вайна. Вось немцы паляць хату, страляюць у родных людзей, а я, хаваючыся, бягу ў недалёкі лес. Там партызаны, яны даюць мне зброю, і я, сціснуўшы зубы, страляю, страляю беспярапынна па шэрых постацях на полі. І адчуваю ў сне тое, што адчуваюць героі фільмаў і кніг, — прагу помсты, нянавісць. А яшчэ — тое, за што сорамна і што ператварае гэты самы сон у кашмар, — страх. Халодны ліпкі страх. Што вось зараз куля трапіць у цябе ці за спінай пачуецца голас ворага. І ад гэтага агіднага пачуцця я заўжды прачынаюся, так і не выстраляўшы з аўтамата ўсе патроны....

Я кожны раз з палёгкай уздыхаю: якое шчасце, што можна прачнуцца. І кожны раз прыходзіць думка: а што адчувалі мае равеснікі пяцьдзесят з лішкам год таму, калі страшны сон быў сапраўднасцю. Ці ахопліваў іх калі той усёпаглынальны імгненны страх? Пра што яны думалі, лежачы ў халоднай зямлянцы ці ідучы па шыю ў багне на прарыў нямецкай блакады? Таму, калі выпадак звёў мяне з Нінай Максімаўнай Шутавай, якая з першых месяцаў вайны і да самага вызвалення была ў падполлі і партызанскім атрадзе, гаварылі мы з ёй больш не пра справы, а пра пачуцці, з якімі гэтыя справы рабіліся...

■

«Ці памятаю я свой самы вялікі страх? — з усмешкай перапытвае Ніна Максімаўна. — Канешне памятаю, бо ён быў першым асэнсаваным страхам. І быў ён задоўга да вайны...»

Тады, у далёкім 32-м, яе, пятнаццацігадовую дзяўчынку, якая толькі скончыла сямігодку і паўгадавыя настаўніцкія курсы, накіравалі працаваць у школу, у суседнюю вёску. Вось тады яна вельмі моцна спалохалася, убачыўшы, што ў давераным ёй чацвёртым класе многія вучні на галаву вышэйшыя і на два-тры гады старэйшыя за настаўніцу...

Яе тады пашкадавалі — далі другі клас — равеснікаў ці крыху меншых. Спачатку яна ніякавела і перад імі, але потым, убачыўшы, з якой увагай яе слухаюць, адчула сваю адказнасць і неабходнасць. І вырашыла, што гэта лёс — быць настаўніцай.

Спачатку быў завочны тэхнікум у Рагачове. А потым, прыехаўшы здаваць выпускныя экзамены, адважылася здаць і ўступныя, у настаўніцкі інстытут. Прычым здавала ўсё запар: і на завочнае аддзяленне, і на дзённае. «Выклікае мяне пасля дырэктар, кажа, маўляў, вы ж дзве работы напісалі, што ж рабіць? А я яму: а вы ўлічыце тую, якая лепшая. Так і залічылі на дзённае». Кожныя выхадныя яна пешшу з Рагачова хадзіла дадому, на ўскраіну Жлобіна. Дваццаць пяць кіламетраў туды, столькі ж назад. Бацькі жылі бедна: у калектывізацыю з хутара іх сагналі, застаўся там і сад, і кусты з ягадамі, хату ў Беліцы давялося ставіць на голым месцы. Але дачцэ памагалі чым маглі, спадзяваліся: вось скончыць Нінка інстытут, выб'ецца ў людзі, яшчэ і нам якую капейку падкіне.

21 чэрвеня 1941 года Ніна здала апошні выпускны экзамен.

■

«Як пачувалася ў чэрвені 41-га? Ах, Божа, шчасця колькі было! Прадчуванне нечага новага, жаданне зрабіць нешта такое вельмі-вельмі добрае і карыснае для ўсіх...» Яна праз колькі дзён павінна была атрымаць свой дыплом выкладчыцы рускай і беларускай мовы і адразу паехаць у Расію, да мужа, з якім пажаніліся годам раней і якога амаль не бачыла: пасля заканчэння вучылішча яго накіравалі на працу лётчыкам-інструктарам, а яна засталася давучвацца.

Яна ўжо лічыла гадзіны да сустрэчы, ноч пасля апошняга экзамена не спала ў радасным утрапенні. Заснула толькі на світанні, каб праз колькі гадзін прабудзіцца ад жудасна-пранізлівага: вайна!

«Не, мы не верылі, што немцы дойдуць да нас. Па радыё гучала музыка, сказалі, каб ніхто нікуды не раз'язджаўся. Вайна была дзесьці там, далёка...»

Думка пра тое, што ўсё нашмат сур'ёзней, чым здаецца, прыйшла ўпершыню, калі, ідучы на пачатку ліпеня дадому, на мосце праз Дняпро сустрэла адступаючых салдат. А потым быў бой пад Беліцай, у якім палягло амаль дзве тысячы нашых. Калі немцы пайшлі далей, вяскоўцы пахавалі трупы прама ў полі, паклаўшы кожнаму пад галаву яго зброю. Яна з жахам назірала за гэтым жудасным пахаваннем. Крыху пазней яе назіранне спатрэбілася: на першым часе партызаны проста задыхаліся без зброі.

■

Спачатку ўсё нагадвала гульню. Камсорг інстытута знайшоў яе ў Беліцы, даў заданне: падлічваць эшалоны, якія адыходзяць са станцыі ў Жлобіне. Потым прыходзілі партызаны, яна паказвала ім тыя агульныя магілы са зброяй. А вечарам яны з сяброўкай пераапраналіся ў хлапчукоў-падлеткаў і ішлі па вёсцы расклейваць на платах лістоўкі. Немцы, тыя што забівалі, пайшлі з фронтам далей, а тыя, што прыйшлі на пастой, здаваліся зусім нястрашнымі, тлустымі цельпукамі, якія, калі і стралялі, то толькі па курах, а малых частавалі шакаладам. Такім, здавалася, можна беспакарана шкодзіць.

Упершыню на рэальную небяспеку ёй адкрыла вочы Наста, сястра, жанчына, на дваццаць гадоў за яе старэйшая. Нейкая дзяўчына, таксама падпольшчыца (яны адзін аднаго рэдка ведалі, часцей замест знаёмства быў пароль), прынесла ёй атруту з заданнем «падсаліць» немцам кухню. «А тут якраз прыязджае гарнізон, і кухня ў нас спыняецца. Я сястры кажу: маўляў, заўтра, калі немцы будуць супам частаваць, не еш, ён атручаны будзе. А яна раптам бух перада мной на калені: сястрычка, мілая, не губі вёску, яны ж усіх за гэта паб'юць!.. Я ж тады ні пра сябе, ні пра вёску не думала. Далі заданне — павінна выканаць... Так я тады тую атруту і не ўсыпала...»

За агародамі стаялі грузавыя машыны, у якіх немцы хавалі трафейную зброю. Машыны не ахоўваліся, і па начах яна цягала кулямёты, аўтаматы, хавала іх у дрывотні, у саломе. У сябе, у суседзяў... «Гэта пасля прыйшло асэнсаванне, што маглі забіць і іх, і мяне. А тады... Гэта патрэбна для перамогі — вось і ўсё было тлумачэнне».

Яны не думалі пра іншых, але яны не думалі і пра сябе... Самае кароткае і самае важкае ім апраўданне. Зрэшты, ці мае хто з нас наогул права іх судзіць?

Палонныя, якія працавалі ў немцаў, папрасілі яе завесці іх да партызан у атрад. Паабяцалі разбіць машыну, набраць зброі. Яна прызначыла ім сустрэчу ноччу на балоце. Усю ноч праседзела пад золкім кастрычніцкім дажджом у багне, грэючы на тлеючым торфе босыя ногі. Ніхто не прыйшоў, адзін з іх аказаўся баязліўцам і адмовіўся ісці. Мокрая, знясіленая, ледзь прыцягнулася ў суседнюю вёску да знаёмых. Склала байку, што шукала на балоце карову, а пасля немцы наставілі патрулёў, і яна пабаялася ісці дадому...

Назаўтра яна ўсё ж завяла хлопцаў да партызан, а сама вярнулася ў вёску — трэба было забраць схаваную зброю. З плачам прыйшла сястра, расказала, што фашысты ўвесь дзень яе шукалі, абяцалі павесіць на сухой таполі каля хаты... Зброю на балота дапамог вывезці на возе чатырнаццацігадовы падлетак. А маці, як у апошні шлях, пайшла яе праводзіць...

■

«У атрадзе я часта адчувала страх. Страх за таварышаў, якія ішлі на заданне. За сябе я чамусьці не баялася — верыла, што маміна малітва адвядзе бяду». Аднойчы яны прыйшлі ў вёску. Хлопцы палезлі на гарышча даставаць тол. А тут немцы і давай страляць курэй. Тыя паразляталіся на страху. А страха саламяная, а пад страхой — свае. «Я тады давай іх за рукі хапаць, маўляў, пан, не страляйце, я сама злаўлю. І кінулася тых курэй ім лавіць...»

«Больш за ўсё баялася трапіцца дзе-небудзь адной немцам. Не смерці баялася, а таго, што ў вёсцы скажуць: звезлі, маўляў, пакарысталіся, а пасля забілі...»

У атрадзе Ніна Максімаўна была ў дыверсійна-падрыўной групе, дзе адны мужчыны. «Што, няўжо ў вас не было ніякай сімпатыі?» — пытаюся асцярожна...» Не, што вы, я ж мужа чакала. І яны пра гэта ведалі. Хлопцы адносіліся з павагай. Я ж іх карміцелькай была. Ім у вёску небяспечна было ісці, а я апрануся старой бабай і іду... Холадна — усе па чарзе на рукі мне хукаюць, грэюць. Цяжка — падтрымаюць, паднясуць»...

Яна часта хадзіла на вылазкі з падрыўнікамі. Але «ўласны» эшалон на рахунку — толькі адзін. І праз гады дагэтуль на сябе прыкрасць: крыху рана рванула шнур, апошні вагон з жывой сілай застаўся. «Ніхто з нашых тады не загінуў, але як я сябе тады «пілавала»: не сумела як трэба!»

«Немцаў, канешне, ненавідзела. А яшчэ больш тых, што з імі былі. Пайшлі аднойчы гарнізон браць, я ляжу за кулямётам са сваім напарнікам. Блізка ад вёскі. Камандзір строга забараніў страляць без каманды. А тут, бачым, немец ля плота сеў, на гармоніку іграе, наша дзяўчына выйшла, села на плот і руку яму на плячо паклала. Дай, кажу, Іван, хоць курок адцягну ды прыцэлюся, калі страляць нельга. Вылізала недзе кацялок і сядзіць задаволеная. А ў майго напарніка, бачу, аж белае каля вуснаў ад голаду...»

■

Яны ні на хвіліну не сумняваліся ў тым, што пераможуць. І ў тым, што ўсе выйдуць з гэтага пекла жывымі. Нават у блакаду. Нават хаваючыся ў глухіх вёсках. «Стаяла сярод дрыгвы вёска Убалаць. Я там аднойчы ногі на печцы адагрэла І ўвесь час думала: скончыцца вайна — прыеду сюды настаўнічаць... Праўда, спалілі пасля Убалаць...»

А адразу пасля радасці вызвалення была роспач. Хлопцы з яе групы пайшлі за лінію фронту на аб'яднанне з арміяй, а яе пакінулі з раненымі. «Так і не сустрэліся. А ісці ў войска з чужымі людзьмі не захацела. Ды і не ўзяў бы ніхто адну жанчыну, якая невядома адкуль узялася...»

■

Давялося вяртацца да бацькоў, у зямлянку (хату спалілі немцы адразу пасля таго, як яна пайшла ў атрад). Сваёй мары — настаўніцкага дыплома, яна так і не атрымала, замест яго выдалі даведку-дублікат... Працавала ў школе суседняй вёскі.

А потым была крыўда. Калі вярнулася з Германіі былая сяброўка, якую палюбоўнік-немец забраў з сабой. «Прыехала з Германіі прыбраная, гладкая, навезла з сабой усякіх строяў на продаж, давай мне іх прапаноўваць. А з мяне яшчэ лясная сажа не змылася...»

А пасля Перамогі было адчуванне, што беззваротна рухнула ўсё жыццё. Той, каго чакала ўсю вайну, вярнуўся да яе жывы і здаровы. Вярнуўся, каб сказаць: «Я за гэты час вельмі заблытаўся. Пачакай крыху, пакуль разблытаюся». Яна не захацела чакаць больш ні хвіліны. «Ён за мной яшчэ гады тры хадзіў. А я... Зламалася ўва мне нешта, і дараваць не змагла...»

У Асіповічах яна сустрэне добрага, чулага чалавека... «Ня́дрэнна з ім жылі, але адчувалі, што позна, занадта позна сышліся...» Мужа няма ўжо шаснаццаць гадоў. Застаўшыся зусім адна, яна прадала ў Асіповічах дом і пераехала ў Жлобін, бліжэй да пляменнікаў...

Ціхае, спакойнае жыццё настаўніцы-пенсіянеркі ва ўтульнай кватэры. А ноччу перад вачыма праносіцца той, яе эшалон, а ў руках мулкі шнур, і сэрца б'ецца дзесьці ў скронях: толькі б не спазніцца, толькі б тузануць своечасова...

■

Калега, пачуўшы, пра што збіраюся пісаць, параіў: пачакай да 23 лютага, будзе якраз дарэчы. Я спачатку пагадзілася, а потым раздумала. Тая вайна — яна заўжды з намі. І жывуць побач з намі людзі, для якіх яна — не гісторыя, а значная, а часта і лёсавырашальная, частка жыцця. І з кожным днём іх становіцца ўсё менш і менш. Можна проста не паспець...

Падчас гутаркі Ніна Максімаўна чытала мне верш нейкага ўкраінскага паэта. Запомніўся мне адзін радок: «Глянь на жывых, пакуль яны жывыя».

Азірнёмся?

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*Жлобін—Мінск.*



## МГП — пусты гук ці гарантыя абароны нашых інтарэсаў?

**Семінар для журналістаў, прысвечаны распаўсюджванню ў нашай краіне ведаў аб міжнародным гуманітарным праве, прайшоў днямі ў Мінску. Яго арганізатарам выступіў Міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа — ініцыятар з'яўлення ў свеце больш як 100 гадоў таму гуманітарнай дыпламатыі.**

Як сведчыць практыка, звычайнаму беларусу тэрмін «міжнароднае гуманітарнае права» (МГП) практычна ні аб чым і не гаворыць, а аб тым, што менавіта МГП прызвана ахоўваць нас у час узброеных канфліктаў і войнаў, ведаюць у нас, напэўна, толькі палітыкі ды юрысты. І гэта нягледзячы на тое, што Беларусь ужо шмат гадоў з'яўляецца ўдзельніцай сусветных «хартый гуманнасці» — чатырох Жэнеўскіх канвенцый 1949 года і двух пратаколаў да іх, прынятых у 1977 годзе... А з'явілася міжнароднае гуманітарнае права яшчэ ў мінулым стагоддзі як пратэст супраць бессэнсоўнага кровапраліцця і імкненне паменшыць колькасць ахвяр у войнах. На сённяшні ж дзень яно абараняе цывільнае насельніцтва ад наступстваў ваенных дзеянняў, дыктуе прававыя нормы сучасных метадаў і сродкаў вядзення вайны, абмяжоўвае прымяненне некаторых відаў узбраення, бярэ пад сваю ахову ваеннапалонных, медыцынскі персанал і журналістаў, дапамагае адшукваць прапаўшых без вестак і магілы загінуўшых.

Як ні сумна канстатаваць, але ў апошнія гады напружанасць у сусветным грамадстве сур'ёзна ўзмацнілася: пацвярджэнне таму — узброеныя канфлікты ў Чачні, Таджыкістане, Абхазіі, Югаславіі і іншых рэгіёнах. Менавіта таму сёння асабліва актуальнай стала прапаганда нормаў міжнароднага гуманітарнага права сярод насельніцтва планеты. Усвядомілі гэта нарэшце і беларускія ўлады: у 1996 годзе Міністэрства абароны РБ падпісвае праграму супрацоўніцтва з Міжнародным камітэтам Чырвонага Крыжа, у рамках якой вывучэнне МГП уводзіцца ў адпаведныя вучэбныя праграмы па падрыхтоўцы ваеннаслужачых у цэнтральным апараце міністэрства, у вайсковых часцях Узброеных Сіл і ў Ваеннай акадэміі РБ. Вывучаецца МГП цяпер таксама і ў ВНУ юрыдычнага профілю.

Яшчэ адным доказам таго, што Беларусь перастае быць фармальнай удзельніцай Жэнеўскіх канвенцый, стала ўключэнне ў праект новага Крымінальнага кодэкса краіны крымінальнай адказнасці за ваенныя злачынствы, а таксама за парушэнні законаў і традыцый вядзення вайны. А літаральна зусім нядаўна Міністэрствам юстыцыі РБ была падрыхтавана даведка аб адпаведнасці беларускага заканадаўства нормам Міжнароднага гуманітарнага права.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# «ХАЛМЫ. СЯМЯКІН»



НАПЭЎНА, не трэба быць заўзятым гурманам, каб з першага «куса» адрозніць агурок з драўлянай бочкі ад аналагічна прыгатаванага, але ў слоіку. Асабіста ў мяне няма бочкі, а таму такімі агуркамі (аналагічна — кіслай капустай і мочанымі яблыкамі) даводзіцца частавацца — шкада! — вельмі рэдка.

Мне і маім сябрам пашанцавала на гэтую гастранамічную радасць у вёсцы Халмы Краснапольскага раёна, дзе майстэрства бондара Мікалая Іванавіча Сямякіна мы ацэньвалі не па знешняму выгляду драўляных пасудзін, а па смаку агародніны, у іх прыгатаванай. Наш журналісцкі «АТК» наеўся агуркоў да адвалу!

Бандарныя вырабы, сцвярджае народны ўмелец Мікалай Сямякін, сёння сапраўды карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў народзе. Спажыўцоў прываблівае не толькі перспектыва смачна есці, але і больш пераканаўчы эканамічны фактар. «Час такі, што людзі просяць, — распавядае майстар. — Зараз у людзей усё больш з'яўляюцца ў гаспадарцы каровы, а гэта дыктуе попыт на вываркі. Каб набыць яе ў краме — патрэбна капейка, ды немалая! А ў мяне — таннейшае ўсё, да таго ж драўляныя вырабы будуць служыць дзесяць—пятнаццаць гадоў. Я такі тэрмін гарантую, але пры ўмове, што гаспадыня будзе ставіцца да рэчы беражліва — не кідаць на сонцы або ў гноі ля каровы...» Мікалай Іванавіч, дарэчы, гарантуе і рамонт, што па сённяшніх эканомных часах таксама немалаважна. Хаця афіцыйнае кляймо майстар на вырабы па сціпласці сваёй не ставіць, толькі калі працуе над важным заказам, піша «Халмы. Сямякін» — і на гэтым усё. Але важныя заказы ці не, а сцвярджае бондар, што на яго работы нараканняў пакуль няма!

Шайкі, кублы для сала, бочкі пад агуркі ці капусту з ёлкі, алешніку, асіны, дуба... Асартымент прадукцыі знакамітага на ўсю Краснапольшчыну бондара даволі шырокі. Апошнім часам вяскоўцы часцяком просяць зрабіць дзежкі, каб расчыняць хлеб. Большасць жыхароў навакольных вёсак вырошчвае збожжа, выробляе муку. Ці набываюць людзі муку ў крамах, а хлеб самі пякуць. Усё танней за гатовы, ды і не параўнаць па смаку: хлеб, распавядала нам жонка бондара Вера Пятроўна, атрымліваецца пульхным, духмяным — асабліва калі падкласці капусны ці, як старыя звычайна рабілі, кляновы ліст.

Заказы на работу Мікалаю Іванавічу Сямякіну паступаюць у вялікай колькасці, толькі вось паважны ўзрост — 73-ці год адлічвае майстар, гэта вам не жарты! — не дае яму разгарнуцца належным чынам у зноў надышоўшую эпоху панавання драўлянага сялянскага інвентару старажытных узораў. Дуб, на жаль, ужо наогул не пад сілу дзеду: адкладанне соляў, ногі баляць, рука «не тая». Гаворыць, што няма здароўя, каб усе заказы выканаць дакладна ў тэрмін, пра што вельмі хвалюецца і таму намагаецца кожны дзень уставаць як мага раней, каб паспець больш. Але як бы ні было дрэнна з самаадчуваннем, не кідае Мікалай Іванавіч сваю бандарную справу і, напэўна, да смерці не кіне. І справа тут не ў карысці для дабрабыту, і не ў пачуцці адказнасці перад заказчыкамі. Калі жонка прапануе яму спыніцца хоць на хвілінку, а то яшчэ і раззлуецца, крыкне: «Хопіць! Надакучылі мне твае дранкі!», стары шчыра адказвае: « А што ж мне рабіць? Буду ляжаць — дык зусім зляжуся... А так паківаюся, потым лепш снедаць буду!»

Бацька Мікалая Сямякіна пражыў 92 гады, і ўсё сваё жыццё рабіў бондарам. Гэтую прафесію ў радаводзе Сямякіных называюць прыроджанай ці менавіта «прыроднай». Мікалая пачалі далучаць да сямейнай справы з самага маленства. Ён выразна памятае, што ўжо ў пяцігадовым узросце ўзнімалі яго з ложка раненька і загадвалі ісці па дрэва: з дзвюх арэшын, што можна было Міколку па ўзросту лёгка прынесці з лесу, атрымліваліся чатыры абручы (у той час жалезных абручоў яшчэ не было). Так што ўвогуле бондар Сямякін мае 60 гадоў працоўнага стажу: прыкладна з 1937 года хлопец працаваў пад наглядам бацькі і дзядзькі, а самастойны працоўны шлях пачаўся для Сямякіна пасля вайны, якую скончыў у Германіі...

Пакуль Мікалай Іванавіч поркаўся з чарговай шайкай для ўнука, мы ў гасцінай гутарылі з Верай Пятроўнай і разглядалі старыя фотакарткі. Самая вялікая і прыгожая з іх датуецца 1947 годам, яе зрабілі адразу пасля вяселля. Вера і Мікалай пазнаёміліся ў цёткі адразу пасля вайны і вельмі хутка ажаніліся. «Так, ён да мяне прыйшоў такі прыгожы! А цяпер ужо не...» — смяецца гаспадыня. Жылося маладым вельмі цяжка, у маленечкай хаце на два акенцы, грошай не было, капейчыну ўзяць не было дзе, бо працавалі за «палачкі»-працадні. Вось тады і выручыла сям'ю Сямякіных бондарскае майстэрства мужыка. «Баба калі скажа, што грошай няма, дык я тыдзень працаваў і потым ехаў у Краснаполле на базар, грошай на пражыццё прывозіў», — успамінае Мікалай Іванавіч.

Так і сёння «прыродная» прафесія бондара дае магчымасць Сямякіну цвёрда заяўляць, што ён — чалавек нябедны. Па-першае, існуе такая рэч, як вясковы бартэр. Мікалай Іванавіч і Вера Іванаўна трымаюць вялікую хатнюю гаспадарку: ёсць у іх і карова, і цялё, і парасё. Зноў-такі, і чарга ў вёсцы пасвіць кароў не абмінае Сямякіных. На агародзе рабіць трэба, бульбу акучваць, сена вазіць — звычайны клопат селяніна, але інваліду вайны з параненай нагой займацца ўсім гэтым самастойна вельмі цяжка: «Тут мы ўжо з бабай бяссільныя!» Але сістэма вясковага бартэру дзейнічае спраўна: прапановы зрабіць што-небудзь для бондара ўзамен шайкі ці дзежкі паступаюць рэгулярна. Іншым разам і Мікалай Іванавіч ідзе да маладых і просіць што-небудзь зрабіць на ўзаемавыгаднай аснове.

Дарэчы, майстар з Краснапольшчыны не застаецца ў баку ад развіцця двухбаковых эканамічных стасункаў з суседняй дзяржавай. Непадалёк ад Халмоў, кіламетраў за пяць, ёсць вёска Чырвоная Гара, а гэта ўжо Бранская вобласць. Гандаль за расійскія грошы таксама ідзе бойка. Напрыклад, за шайку сярэдняй велічыні даюць звычайна Мікалаю Іванавічу рублёў 35, на нашы грошы — каля 200 тысяч. Што і казаць — выгадна! Але за правіла свайго ўласнага гандлю Сямякін пастанавіў — ніколі не таргавацца з бабулямі, няхай яны і грамадзянкі іншай дзяржавы. Звычайна пакупнікі гавораць бондару: «У мяне ёсць столькі грошай, а больш — прабачце...», а той і адказвае: «Давай так! Цвёрдай устаноўкі няма!»

Лічыць Мікалай Іванавіч, што ў параўнанні з пасляваеннымі гадамі сяляне ўвогуле жывуць лепш, можна нават сказаць — добра. «Крыўдзіць — дык не вельмі нас крыўдзяць, — дзеліцца сваімі думкамі майстар. — У калгасе жывём, калі што трэба — папросіш, і ніколі не адмаўляюць. Што болей трэба? І з суседняй Казельскай школы дырэктар дасылае да нас, старых, старшакласнікаў на дапамогу. Прыходзяць хлопчыкі і дзяўчынкі, пытаюцца: «Дзед, што табе трэба зрабіць?» Каб гэтых дзетак не пакрыўдзіць, даю ім дровы скласці. Так што дапамагаюць! Вось толькі адзінокім і маласільным жывецца цяжкавата. Пенсія малая, а ісці і прасіць?.. Ну што, можна сказаць вам прама: бутэлька павінна быць і снеданне на стале, тады і зробяць. А калі паскупіцца, дык і будзе ўсё ляжаць, у некаторых і жыта зазімуе...»

Дарэчы, тэму алкагольных напояў мы з Мікалаем Іванавічам абмеркавалі асобна. Ні для кога не сакрэт, што гарэлка ці самагон — вясковая валюта, і не адзін майстар спіўся ад таго, што ўдзячныя аднавяскоўцы плацілі ёй за добра выкананую працу. Як шчыра прызнаўся Семякін, ад падобнага ганебнага шляху яго ўратавалі... «капрызы жонкі»! Маецца на ўвазе моцны кантроль, бо нават стограмовую чарку Вера Іванаўна адразу чуе і на гэты конт ніколі не памыляецца. «Дзякуй маёй гаспадыні! — з гордасцю гаворыць Мікалай Іванавіч. — Я заўсёды і нашым мужыкам кажу, што ўсё тут залежыць ад жонкі. Мне 73 гады, а схільнасці да алкаголю ніколі ў жыцці не адчуваў».

Ёсць толькі ў майстра «пункцік» — піва. Памятае ён, што на фронце, у Польшчы, падчас перадышкі ў лазні хлопцы дасталі недзе ў палякаў піва. Вырас Мікалай у вёсцы і не ведаў, што гэта за мудрагелісты напой. Глынуў раз і сказаў: «Асінавая кара!» Якая на густ асінавая кара, малады бондар добра ведаў, бо звычайна з яе рабіў кузаўкі для ягад. І дасюль памятае, як выкінуў тады польскую бутэльку з півам. А вось зараз бы і тры такіх выпіў, а нельга — па ўзросту і здароўю не дазваляе доктар. Толькі вось і засталося, што шкадаваць пра выкінутую ў 44-м бутэльку...

Інтарэсы сям'і Сямякіных распаўсюджваюцца не толькі на хатнюю гаспадарку і бандарную вытворчасць. Кожны вечар Мікалай Іванавіч і Вера Іванаўна садзяцца глядзець беларускія тэлевізійныя навіны. Гаспадыню, праўда, часцей адольвае дрымота пад манатонную дыктарскую гаворку, а вось дзед заўсёды гатовы выказаць сваё меркаванне па асноўных падзеях грамадска-палітычнага жыцця краіны.

А наша з ім гутарка зайшла пра самую блізкую для жыхара Краснапольшчыны актуальную тэму — радыяцыю. Сам Мікалай Іванавіч нарадзіўся ў вёсцы Мар'іна Буда, што непадалёк ад Халмоў. Зараз яна выселеная, і, як гавораць звычайна ў гэтых мясцінах, «з'ела радыяцыя ўсю вёску». Яшчэ год таму ў Мар'інай Будзе стаялі хаты, але прайшоў вялікі пажар, і засталося ад яе папялішча. Аднак былыя жыхары гэтай вёскі, як і Мікалай Іванавіч, ездзяць туды на могілкі, дзе пахаваны ўсе родныя. «Прыеду на могілкі, пагляджу на тыя мясціны, дзе людзі жылі, хлеб елі, а цяперака там толькі гадзюкі поўзаюць», — з горыччу гаворыць дзед. Ён катэгарычна супраць высялення людзей з забруджаных тэрыторый, і ніхто не пераканае яго досыць наіўны доказ бясшкоднасці радыяцыі: «Я з дрэвам працую, але нічога дрэннага не адчуваю».

Але разам з тым Мікалай Іванавіч лічыць, што не трэба шукаць у перасяленні з вёсак, у радыяцыі карані сённяшніх вясковых праблем, не вельмі заможнага жыцця сялян. Ён упэўнены, што людзі зараз працуюць не так, як старыя ў свой час. Як і мала хто ўспрымае сёння сэнс жыцця самога Сямякіна: «Сэнс у тым, каб жыць лепей, а для гэтага трэба працаваць!» Мы не сталі спрачацца з Мікалаем Іванавічам па адвечнай праблеме бацькоў і дзяцей. Так ужо павялося, што кожнае пакаленне лічыць наступнае большымі нігілістамі і гультаямі. Але што датычыцца цярплівасці, дык наконт гэтага мы з Мікалаем Іванавічам пагадзіліся: таму чаму, а цярплівасці жыццё ягонае пакаленне навучыла.

Мы некалькі гадзін назіралі за работай бондара. На мой асабісты погляд, я даўно растаптала б ад злосці драўляныя загатоўкі і выкінула інструмент. Са мной пагадзілася і жонка майстра Вера Іванаўна, якая час ад часу гаворыць мужу тое ж самае, але той толькі ўсміхаецца і ўсё бясконца дарабляе і перарабляе. Таму і атрымліваецца так, што Сямякін — апошні бондар на вёсцы. «На жаль, у мяне няма вучняў, — паскардзіўся Мікалай Іванавіч. — У мяне два сыны: адзін з'ехаў у Магілёў, другі працуе тут, механізатарам. Абодва разумеюць маю работу, але гэта колькі ж трэба сядзець, корпацца. Каб зрабіць бочку, трэба працаваць як мінімум два дні, а потым яшчэ і сушыць у печы, каб не рассыпалася і не працякала. Якая марока! І гэта за 120 тысяч рублёў за адну бочку. Так што самі разумееце...»

Так і развітаўся Мікалай Сямякін са сваёй марай выгадаваць новае пакаленне бондараў. Тым больш, што, упэўнены майстар, бондарам трэба нарадзіцца, прывыкнуць да гэтай працы з самага маленства. Такое майстэрства павінна ўвайсці ў кроў чалавека! Таму і застаюцца адзінкі, якія яшчэ здольныя рабіць драўляныя бочкі ды дзежкі. А вось ці будуць нашы нашчадкі частавацца сапраўднымі — з бочкі! — агуркамі, капустай і яблыкамі — гэта яшчэ вялікае пытанне.

Мабыць, у музеі?..

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

Праблема

# Чаму не грэе свой кажух?

НА АЎТАВАКЗАЛЕ ў Баранавічах я пацікавіўся, як апрануты людзі з вёскі. Тут народ збіраецца з вялікага рэгіёна. Едуць у бок Навагрудка, Нясвіжа, Ляхавіч... Вобласці розныя, а карціна адна. Амаль усе жанчыны былі апрануты ў плюшавыя паўпаліто, а мужчыны ў асноўным у курткі. Гэта датычылася найперш людзей старэйшага пакалення. На вуліцы зіма, пранізлівы вецер — і ніводнага чалавека ў кажушку. Лёгкім, цёплым і вышываным, якія насілі яшчэ ў самыя цяжкія для калгаснікаў часы, калі ўвогуле нічога не плацілі.

Потым я пытаўся ў старых: «А дзе кажухі?» І чуў у адказ, што кажухі знасіліся, авечкі звяліся, а аўчыны няма каму вырабляць...

У гаспадарцы карова заўсёды была на першым месцы, а на другім — авечка. Калі першая карміла, то другая апранала. Але гэта было даўнавата, сёння нібыта ў авечках і няма ранейшай патрэбы. На рынку можна купіць кітайскі пухавік з паркалю, польскую куртку ці штосьці данасіць пасля дзяцей. Вядома ж, тую хромавую куртку ці кажушок з задавальненнем насілі б і дзеці, але тут паўстае пытанне, дзе вырабіць аўчыны. А калі і ўдасца, то, як правіла, якасць нізкая. І зноў жа, дзе той кажушок пашыць? Раней калі не ў кожнай вёсцы, дык на акругу быў гарбар, хтосьці шыў на заказ. Але дзяржава вяла барацьбу з прыватнікамі і ўсіх ганчароў, краўцоў, шаўцоў... «задушыла» падаткамі. Сакрэты рамяства забыліся і адмерлі разам з майстрамі-рамеснікамі.

Але пакінем старых, бо свой век яны дажывуць ужо і ў плюшавых паліто. Яны заўсёды абыходзіліся малым.

А як справы з авечкагадоўляй у дзяржавы? Працуюць камвольныя камбінаты, гарбарныя заводы, абутковыя фабрыкі, а ім без воўны, аўчын ды хрому цяжка абысціся.

У 1974 годзе у высокіх кабінетах задумалі стварыць па ўсёй краіне авечкагадоўчыя гаспадаркі. Кінулі покліч і пачалі ў кожным раёне іх ствараць. Вось тады і арганізавалі калгас «Дружба». Адзіны на ўвесь Ляхавіцкі раён.

Мінуў час, і цяпер толькі гэтаму калгасу ў Беларусі ўдалося захаваць пагалоўе авечак. А ў астатніх гаспадарках пусцілі свае атары пад нож. У адных раёнах поўнасцю, у другіх часткова.

У Брэсцкай вобласці на сёння ў наяўнасці 5200 галоў авечак, з іх 3100 у «Дружбе». У Брэсцкім раёне засталося 748 авечак, а ў Івацэвіцкім — усяго 28. Буйнейшы раён вобласці, Баранавіцкі, увогуле не мае.

Чаму з такой, здавалася б, перспектыўнай і, галоўнае, важнай для эканомікі Беларусі галіной выйшаў канфуз?

Старшыня калгаса Яўген Юрлевіч таксама стаіць перад праблемай. Што рабіць далей? Пабудавалі ферму-аўчарню, пабялілі, пафарбавалі, хоць цяпер запускай авечак, і хацелася б, каб так і было, але эканамічныя выкладкі гавораць адваротнае.

Трэба на гэтай ферме паставіць кароў. Яны дадуць прыбытак, а ад авечак толькі страты і праблемы. Сёння авечкі нікому не патрэбныя. Раён, як і вобласць, не могуць змяніць сітуацыю да лепшага. Праблема глабальная, закранае ўсю галіну ў цэлым. А ў міністэрстве сельскай гаспадаркі да авечак рукі не даходзяць.

Вось Я. Юрлевіч і выказаў думку пра неабходнасць стварыць у міністэрстве хаця б аддзел, які б займаўся авечкагадоўляй, дапамагаў бы тым гаспадаркам, якія яшчэ трымаюць авечак. А іх у Беларусі ўжо няшмат.

Востра стаіць пытанне племяннной работы. Справа ў тым, што рэзкае скарачэнне пагалоўя абмяжоўвае выбар племянных вытворцаў. Рэзка павысілася рызыка блізкага кровазмяшання, а гэта згубна ўплывае на стан усіх атар. Стварыць генафонд і захаваць яго не пад сілу адной гаспадарцы. Калгас «Дружба» — гэта ўсяго адна вёска Канюхі. А працуюць у ім толькі сто чалавек. Так што магчымасці калгаса абмежаваныя і ён не можа вырашаць маштабныя праблемы.



Авечкі прыносяць страты, якія перакрываюцца галоўным чынам збожжам і бульбай. У калгасе 1000 гектараў ворыва. І як гэтых авечак трымаць, калі за адну аўчыну плацяць калгасу 10—15 тысяч рублёў? Воўну таксама збыць праблема. Летась яе прадалі камерсанту па 27 тысяч за кілаграм, і гэта лічыцца ўдачай — на фабрыках давалі меней. А на мяса ўвогуле цана не ўстаноўлена.

Заключылі з Баранавіцкім мясакамбінатам дагавор на пастаўку яму 30 тон бараніны, а цану не агаварылі. Можа прыраўнуюць да ялавічыны?

А авечкі ў калгасе элітнай пароды «прэкос». Завезеныя з Францыі. Воўна ідзе на тонкую касцюмную тканіну, шкура прыдатная для пашыву плашчоў і пальчатак, а мяса далікатэснае. Але гэта мала каго грэе. Можна было б паспрабаваць перапрацоўваць сыравіну сваімі сіламі, ды толькі гэта было б выгадна, калі б у калгасе трымалі тысяч 30 авечак, альбо ў рэгіёне гадавалі б шмат авечак. Тады можна было б і думаць пра свой цэх, была б магчымасць круглы год загружаць вытворчыя магутнасці.

Па затратах кармоў замест трох тысяч авечак можна трымаць тысячу кароў. З пункту гледжання эканомікі гэта было б выгадна. Каровы дояцца не адзін месяц, а авечку стрыгуць раз у год.

Старшыня лічыць, што выразаць жывёлу можна заўсёды, цяжэй авечак захаваць. Не хацелася б, каб развалілася справа, якой ён аддаў 10 гадоў жыцця. Ён спадзяецца, што настане час, калі за племянных бараноў будуць плаціць добрыя грошы. Аднаўляць пагалоўе ўсё ж прыйдзецца, а без племянных вытворцаў тут не абысціся. Вось і Віцебская біяфабрыка закупіла вялікую колькасць бараноў і плаціла за кілаграм жывой вагі па 55 тысяч.

Мусульмане бяруць бараноў на свята Байрам для сваіх прыходаў і плацяць добра. І ўсё ж гэта маленькія радасці. Патрэбна стратэгічная лінія ў авечкагадоўлі, а пакуль яе не будзе, воўну, хромавыя курткі ды кажухі мы будзем купляць за валюту на другім канцы свету.

А калі нічога не зменіцца?

— Пачакаем яшчэ два-тры гады, і, калі ніякіх зрухаў не будзе, прыйдзецца пусціць авечак пад нож, — сказаў Яўген Нікадзімавіч.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**
**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 5 (123)


## ПРАДАЕЦЦА

❑ «ГАЗ-66» у выдатным стане.
Тэл. у Лідскім раёне 9-23-48, пасля 18.

❑ «ВАЗ-21063» 1985 г. в. у добрым стане, у Валожыне.
Тэл. 5-48-80.

❑ Электронны блок да эл. баяна «Эстрадин-8Б».
Тэл. у пас. Акцябрскі (8-257) 2-32-36, пасля 17.

❑ а/м «Таўрыя» 1990 г. в. прабег 52 тыс. км, у добрым стане, люк, магнітола, белы — 1800 у. а.
Тэл. у Паставах 2-13-78.

❑ «Масквіч-2140» 1987 г. в. у добрым стане, рамонт у 1997 г. — 900 у. а.
Тэл. у Капылі 5-56-84, 4-71-97.

❑ бензапіла «Урал».
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 3-46-75.

❑ рухавік УМЗ-5А (ЗІФ), новы.
Тэл. у Полацкім раёне, в. Туржэц-1, 9-93-31.

❑ рухавік да «ГАЗ-53» і КПП з дакументамі ў добрым стане.
Тэл. у Слуцку 7-41-81.

❑ дом з г/пабудовамі, участак 25 сотак у в. Чырвоная Дубрава Капыльскага раёна.
Тэл. 5-47-39.

❑ дом, участак 10 сотак, сад у г. Асіповічы.
Тэл. (8-02235) 2-20-90.

❑ палова драўлянага дома ў межах г. Мінска, плошча 50 кв. м, цана дагаворная.
Тэл. 266-43-55.

❑ тэрмінова 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Мінска.
Тэл. 239-76-13.

❑ кватэра 1-пакаёвая ў цагляным доме, 2-гі паверх, у г. Гомелі.
Тэл. 50-68-63.

❑ самаробны міні-трактар не на хаду — 350 у. а.
Тэл. (8-293) 4-27-92.

❑ палова вагона пад дачу ці гараж, уцеплены.
Тэл. у Асіповічах 22-0-90.

❑ дом у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, маецца тэлефон, вада, сад, уч. 25 сотак.
Тэл. у Ваўкавыску 2-61-64.

❑ кватэра 2-пакаёвая з выгодамі ў п. Солы Смаргонскага раёна, цана 4000 у. а.
Тэл. (8-01592) 2-16-60.

❑ дом у Шчучынскім раёне, маецца сад, склеп, уч. 25 сотак, іншыя гаспадарчыя пабудовы, танна.
Тэл. у г. Масты 2-43-97.

❑ дрэвaапрацоўчы станок да мотаблока і аднафазны зварачны апарат у камплекце.
Тэл. у Гродне 44-26-70.

❑ «УАЗ-452» (фургон) у выдатным стане.
Тэл. у Слуцку 2-07-86, пасля 18.

❑ кватэра 2-пакаёвая з усімі выгодамі, 1,5 км ад г. Стоўбцы, участак 10 сотак.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 4-66-12.

❑ фотапавелічальнік «Ленінград» у выдатным стане з фотапрыладамі — 10 у. а., баян «Раяль стандарт» (Германія), пяціpадны, чорны, новы — 400 у. а., камп'ютэр «Байт» у выдатным стане — 20 у. а.
Тэл. 242-08-35.

❑ цагляны дом з г/пабудовамі, гаражом, участкам у г. Глыбокае.
Тэл. (8-255) 3-74-32.

❑ рухавік, задні мост, КП і інш. з/ч да «Масквіча».
Тэл. у Лідзе 3-29-70.

❑ дом з г/пабудовамі, сад, уч. 30 сотак у в. Палужжа Карэліцкага раёна.
Тэл. 2-52-84.

❑ дом з г/пабудовамі ў в. Восава Мядзельскага раёна, сад, калодзеж.
Тэл. (8-297) 5-12-14.

❑ дом з г/пабудовамі, сад, калодзеж, 50 сотак участак у г. п. Урэчча Любанскага раёна.
Тэл. (8-295) 51-3-60.

❑ дом з г/пабудовамі, ст. Беражок Крупскага раёна, гараж, участак.
Тэл. у Жодзіне 4-26-32.

## РОЗНАЕ

● куплю трактар МТЗ, Т-25 б/к.
Тэл. (8-017) 258-34-64.

● куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі, старыя рэчы да 1940 г.
Тэл. 253-24-41.

● мяняю цагляны дом (сад, тэлефон, 12 сотак) у Грэску Слуцкага раёна на 1,5- ці 2-пакаёвую кватэру ў Мінску.
Тэл. у Грэску 9-03-92, пасля 18.

● мяняю 3-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў г. Шчучыне на 2-пакаёвую ў любым райцэнтры паблізу Мінска.
Тэл. у Шчучыне 2-49-74.

● прыклады рацыянальнага ўтрымання жывёлы ў прыватнай гаспадарцы, 55 тыс. руб.
Тэл. у Мінску 234-43-02, пасля 18.

● дзве дзяўчыны-студэнткі здымуць пакой за 24 у. а. на вул. Будзённага, Ванеева, Даўгабродскай.
Тэл. 292-78-90.

● мяняю палову дома (маюцца ўсе г/пабудовы, участак 15 сотак) на кватэру ў Маладзечне.
Тэл. у Смаргоні 36-8-75, пасля 18.

● здам гараж па вул. П. Глебкі.
Тэл. 251-18-34.

● куплю юбілейныя рублі СССР па 35 тыс. за штуку.
Тэл. (8-222) 3-31-15, пасля 19.

● мяняю прычэп 2ПТС4 на КТН або прадам, а КТН куплю.
Тэл. (8-02357) 3-25-26.

● сям'я шукае працу па с/гаспадарчых спецыяльнасцях (ветэрынарыя і аграномія) у Гродзенскім раёне.
Тэл. (8-293) 3-23-54.

● куплю пярэдні бампер да «Масквіча-2141 М» чорнага колеру.
Тэл. у Шчучынскім раёне (8-01514) 3-35-55.

● куплю пярэднюю рашотку да «Форд-Сіера» 1986 г. в.
Тэл. 231-81-74.

● Вадзіцель катэгорыі «В», «С», «Е» шукае работу (стаж 10 гадоў) або возьме ў арэнду экскаватар ЮМЗ, МТЗ.
Тэл. у Капыльскім раёне 4-67-57, Саша.

● мяняю «Фальксваген-транспарцёр» 1982 г. в. у добрым стане на «МАЗ», «КамАЗ» (бартавы).
Тэл. (8-2230) 3-07-59.

● куплю швейную машыну «Зінгер».
Тэл. у Ашмянскім раёне 2-31-98, пасля 17.

*Здыму або куплю ў растэрміноўку дом у вёсцы (Мінскай вобласці) сярэдніх памераў з участкам паблізу ад ракі, возера, ці лесу.*
Тэл. (8-017) 227-28-12.

*Мяняю 3-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі (40 кв. м, кухня 9; 2-гі паверх, прыватызаваная, з г/пабудовамі, гаражом, садам, уч. 11 сотак, на станцыі «Чырвоны сцяг» (барысаўскі напрамак) на 3-пакаёвую ў Мінску, магчымы варыянты.*
Тэл. у Мінску 240-73-00.

*Куплю мотаблок МТЗ.*
Тэл. (8-017) 276-45-31.





## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. № 600**. Пазнаёмлюся з дзяўчынай ад 25 да 30 гадоў.
Аб сабе: нежанаты, 27 гадоў, жыву ў Маладзечне, маю свой дом. Пры знаёмстве фота абавязкова.

**Аб. № 601.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай 20—26 гадоў для стварэння сям'і.
Аб сабе: 25/172/65, жыву ў сельскай мясцовасці.

**Аб. № 602.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 55 гадоў, без шкодных звычак.
Аб сабе: 53 гады, рост 168, адукацыя вышэйшая.

**Аб. № 603.** Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і.
Аб сабе: 25/175/73, па гараскопу Дзева, халасты, жыву ў вёсцы з бацькамі, падрабязнасці і фота пры перапісцы.

**Аб. № 604.** Адкажа на ліст адукаваная мінчанка (57/165) з кватэрай і багаццем душы мужчыну да 60 гадоў такога ж стану.

**Аб. № 605**. Пазнаёмлюся з прыстойнай жанчынай да 35 гадоў з Мінскай вобласці для стварэння сям'і.
Аб сабе: 35 гадоў, рост 176, жыву ў сельскай мясцовасці, падрабязнасці ў пісьме.

**Аб. № 606**. Пазнаёмлюся з мужчынам да 50 гадоў без шкодных звычак з Мінска ці Мінскай вобл. для стварэння сям'і.
Аб сабе: 39/170/70, адукацыя вышэйшая, Вадалей.

**Аб. № 607**. Таварыская, энергічная, але вельмі сур'ёзная жанчына шукае мужчыну 40—45 гадоў, здольнага паважаць, цаніць, абараніць.
Стралец, 170/75, 41 год, адукацыя вышэйшая.

**Аб. № 608**. Сімпатычны бландзін 19 гадоў пазнаёміцца з дзяўчынай 17—20 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Матэрыяльна забяспечаны, па гараскопу Дзева, 180/78, Антон.

**Аб. № 609.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 30 гадоў для стварэння сям'і.
Аб сабе: непітушчы, быў жанаты, маю дачку 9 гадоў. Жыву ў сельскай мясцовасці. Па гараскопу — Рыбы, 35 гадоў, 185/75.

***P.S.*** *Паважаныя чытачы, якія жадаюць даць аб'яву ў «Асабістае жыццё». Для лепшай арыенціроўкі ў выбары абанента і каб не траціць марна час прапаную у аб'яве ўказваць хаця б вобласць, у якой пражывае абанент, ці горад.*

Тэленавіны

# «Эканамікст» пераходзіць у рэгіёны

Вельмі папулярная перадача Беларускага тэлебачання «Эканамікст», якая рыхтавалася тэлекампаніяй «ФІТ», з новага года знікла з эфіру БТ. Да верасня 1997 года пастаянная аўдыторыя «Эканамікста», паводле даных сацыялагічнай лабараторыі «Новак», складала ад 10 да 20 працэнтаў. Цяпер гледачы БТ страцілі магчымасць мець такую цікавую перадачу. Але не зусім.

Кіраўнікі тэлекампаніі «ФІТ» тлумачаць знікненне сваёй перадачы з эфіру БТ перш за ўсё перанясеннем тэрміну яе вяшчання на 9.30, самы нецікавы час і для гледачоў, і для рэкламадаўцаў. А паколькі «Эканамікст» займаўся праблемамі станаўлення рыначнай эканомікі, асвятляў недзяржаўны бізнес, прамысловасць і фінансы і ў цэлым быў разлічаны на дзелавую аўдыторыю, то вяшчанне ў гэты час проста не мае сэнсу: у 9.30 ніхто з занятых людзей не можа сядзець ля тэлевізара.

Тым не менш, «Эканамікст» не знік зусім, кампанія «ФІТ», выкарыстаўшы ідэю Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСПЭД), заключыла дагавор з Тэлевізійным вяшчальным саюзам (ТВС), які аб'ядноўвае 16 рэгіянальных вяшчальных станцый з сумарнай аўдыторыяй больш як 3,5 мільёна патэнцыяльных гледачоў, а таксама з 8-м каналам, які з'яўляецца рэгіянальным у Мінску і вобласці. Такім чынам узнік праект штотыднёвай эканамічнай перадачы «Эканамікст-2». Тэлекампанія «ФІТ» пры падтрымцы рэгіянальных студый будзе ствараць сур'ёзную і цікавую эканамічную праграму, грунтуючыся на ідэях рыначнага тыпу, і распаўсюджваць іх праз 16 рэгіянальных станцый у абласцях і Мінску. У сваю чаргу мясцовыя кампаніі будуць дасылаць у агульную перадачу свае эканамічныя матэрыялы, што толькі ўзбагаціць перадачу, наблізіць да гледачоў.

— У далейшым мы бачым эвалюцыю нашай праграмы ў штодзённую 20—30-хвілінную паўнацэнную інфармацыйную праграму інфармацыйных навін, што выходзіць у прамым эфіры. Падобная праграма магла б рэзка павялічыць аўдыторыю ТВС, істотна падняць рэйтынг яе каналаў, — лічыць прадстаўнік «ФІТа» Андрэй Астравух. Сапраўды, мясцовыя тэлеканалы маюць патрэбу ў грунтоўных, але блізкіх да гледача перадачах.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі**
**220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*





## Віншаванні

*Віншуем з залатым вяселлем дарагіх бацькоў* ***Аляксандра Пятровіча і Клаўдзію Лаўрэнцьеўну ЗАПОЛЬНЫХ*** *з в. Зябкі Глыбоцкага раёна. Жадаем здароўя, удачы, цяпла, каб беды-нягоды згарэлі датла.*

**Дзеці, унукі, праўнукі.**

*У дарагіх бабулі і дзядулі* ***Надзеі Паўлаўны і Мікалая Андрэевіча ЧАРНЯКОЎ****, якія жывуць у в. Пісаравічы Салігорскага раёна, залатое вяселле. Жадаю моцнага здароўя, бадзёрасці і доўгага шчаслівага жыцця.*

**Унучка Валя.**

*Паважаны* ***Пётр Сільвестравіч ГРЫВІЦКІ*** *з г. Маладзечна, віншуем Вас з юбілеем і жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці.*

**Сем'і брата Івана і сястры Марыі.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Леаніда Анатольевіча ТРАЦЦЯКОВА*** *з в. Голацк Пухавіцкага раёна. Жадаем здароўя, шчасця, радасці і дабра.*

**Жонка, дзеці.**

*Віншуем з 60-годдзем* ***Фёдара Аркадзьевіча БАРАНОЎСКАГА і Марыю Марк'янаўну НЕЎМЯРЖЫЦКУЮ*** *З 75-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці і цяпла..*

**Родныя,**
*в. Млынок Ельскага раёна.*

*Ад усяго сэрца віншуем з днём нараджэння дарагую* ***Ларысу Іванаўну НАРБУТОВІЧ*** *з в. Аюцавічы Карэліцкага раёна. Жадаем мора шчасця, акіян любові, возера ўдачы, ручаёк тугі.*

**Сям'я Нарбутовічаў.**

*Віншуем з днём нараджэння любых нам дзяцей: зяця* ***Аляксандра Валяр'янавіча РАМАШКУ*** *з Гродна і сына* ***Аляксандра Іванавіча АПАЛОНІКА*** *з в. Косічы. Жадаем шчасця, радасці і здароўя.*

**Бацькі.**

*З вялікай павагай, дарагая мамачка і бабуля* ***Таісія Сяргееўна БЕКАРЭВІЧ****, віншуем з 65-годдзем. «Тебе, дорогая, мы подарили б вечность, чтоб длились без конца года твои — за доброту твою и человечность».*

**Е. М. Барэйша**, *г. п. Воранава.*

# Неабыякавая нацыя — шведы. Ім да ўсяго ў свеце ёсць справа

***Рэдкі жыхар Швецыі не размаўляе на англійскай ці іншай шырока распаўсюджанай замежнай мове. Калі вы на гарадской вуліцы звернецеся па-англійску да незнаёмага з банальным пытаннем пра патрэбны вам адрас і ў адказ пачуеце нешта незразумелае, то будзьце ўпэўнены — перад вамі не швед. Хутчэй за ўсё, фін ці датчанін, які прыехаў сюды на заробкі ці ў госці.***

УВЕСЬ ЧАС знаходжання ў Швецыі я не пераставаў здзіўляцца таму, што тут на ўсіх узроўнях людзі хто лепш, хто горш, але валодаюць англійскай мовай.

Зразумела, калі менеджэр «Вольва», які адказвае за знешнеэканамічныя сувязі, гаворыць на англійскай як на роднай. Ці палітычны аглядальнік буйной уплывовай газеты «Гётэборг-постэн» з другім па колькасці ў Швецыі тыражом (600 тысяч). Але для мяне, які пачынаў свой шлях у журналістыцы ў раённай газеце Мінскай вобласці, з'явілася вялікім адкрыццём тое, што ў шведскай глыбінцы ўсе творчыя супрацоўнікі мясцовай «раёнкі» гарадка Алінгсас даволі добра размаўляюць па-англійску. Лёгка, без праблем пераходзілі на яе ў аптэках, магазінах і г.д. Напрыклад, шафёр таксі, які позна ўначы адвозіў мяне з аэрапорта ў гасцініцу, па дарозе зрабіў невялікі экскурс у гісторыю Кальмара, ахвотна расказаў пра сённяшні дзень свайго роднага горада. І ўсё на англійскай.

Веданне гэтай мовы — абавязковая ўмова пры прыёме на работу ў паліцыю. Там сёння працуе шмат жанчын, і ў фаворы супрацоўнікі, якія валодаюць іспанскай, французскай, рускай, іншымі менш распаўсюджанымі ў свеце мовамі. Бо сёння шведскай паліцыі ўсё часцей даводзіцца мець справу з імігрантамі з краін былога Савецкага Саюза, Азіі і Афрыкі.

На пытанне, адкуль падобнае амаль пагалоўнае веданне англійскай мовы, шведы адказваюць наступным чынам.

Па-першае, Швецыя — адкрытая краіна. Да іх шмат прыязджаюць, і яны часта пакідаюць межы сваёй дзяржавы.

Па-другое, тут у дзяцей з ранняга ўзросту выхоўваюць патрэбу ў вывучэнні замежных моў, бо гэта важная ўмова камфортнага адчування сябе ў Еўропе і далей.

Па-трэцяе, шведскае тэлебачанне моцна стымулюе замацаванне лінгвістычных навыкаў у сваіх суайчыннікаў. Па ўсіх каналах мясцовага тэлебачання дэманструецца шмат фільмаў і забаўляльных перадач на англійскай, французскай і нямецкай мовах. Яны не дублююцца, як у нас. Усе гэтыя перадачы ідуць на мове арыгінала, а пераклад забяспечваецца кароткімі цітрамі. Такая практыка, па водгуках саміх шведаў, вельмі зручная для вывучэння той ці іншай мовы. І, на мой погляд, вартая ўкаранення на Беларускім тэлебачанні.

Адсутнасць моцных моўных бар'ераў, якіх-небудзь комплексаў на замежжа і выдатная матэрыяльная забяспечанасць большасці насельніцтва спрыяе паездкам шведаў па свеце. Сёння яны адна з самых вандроўных нацый. Шведаў можна сустрэць у самых далёкіх кутках планеты ў саставе дэлегацый міжнародных арганізацый, дабрачынных місій.

Для шведаў няма вялікай праблемы купіць білет на самалёт і зляцаць на тыдзень-другі ў нейкую краіну. Знаёмы журналіст з горада Гётэборга Сціг Хансэн як аб нечым звычайным гаварыў, што ён штогод прыкладна пяць дзён праводзіць у Лондане, дзе яму асаблівую асалоду прыносіць наведванне знакамітых кніжных магазінаў і букіністычных крамаў.

Невялікая ў маштабах планеты па тэрыторыі і малая па колькасці насельніцтва (каля 9 млн. чалавек) Швецыя, тым не менш, на міжнароднай арэне адыгрывае значную ролю. Да яе меркавання ўважліва прыслухоўваюцца ў сталіцах вядучых краін і штаб-кватэрах важных міжнародных арганізацый.

Голас краіны важка гучыць у свеце па розных прычынах. У многім дзякуючы разумнай і ўмела праводзімай палітыцы нейтралітэту Швецыі ўдалося пазбегнуць удзелу ў дзвюх надзвычай разбуральных сусветных войнах. І потым яна ўпарта процістаяла агітацыі з боку НАТО, не далучалася да ваенных блокаў і саюзаў.

Разам з тым шведскі нейтралітэт зусім не падобны на абыякавае, пабочнае назіранне за міжнародным жыццём. Гэта заўсёды быў актыўны ўдзел у справах сусветнай супольнасці, і застаецца такім зараз. Прычым, як сведчыць найноўшая гісторыя, Швецыя нярэдка выказвала вельмі непрыемныя рэчы супердзяржавам. Яна востра крытыкавала Савецкі Саюз за агрэсію супраць Венгрыі ў 1956 г. і Чэхаславакіі ў 1968 г. Моцна даставалася кіраўніцтву СССР і за ўвядзенне так званага «абмежаванага кантынгенту войскаў» у Афганістан.

Яшчэ больш драматычна складваліся адносіны са Злучанымі Штатамі Амерыкі з нагоды вайны ў В'етнаме. Вашынгтон моцна раздражняла, што «маленькая Швецыя» пастаянна на ўвесь свет палікае яго за варварскія метады вядзення баявых дзеянняў супраць партызан. А моцная крытыка з вуснаў тагачаснага прэм'ера Улафа Пальма за сумна вядомыя «калядныя бамбардзіроўкі» ў 1972 годзе паставіла адносіны Швецыі з ЗША на мяжу разрыву. У. Пальма тады параўнаў дзеянні амерыканцаў са злачынствамі нацыстаў у гады другой сусветнай вайны.

Натуральна, у сталіцы ЗША моцна пакрыўдзіліся, і рэакцыя Белага дома была рэзка негатыўнай. Дзярждэпартамент тэрмінова выклікаў у Вашынгтон са Стакгольма свайго пасла, як гаворыцца, «для кансультацыі» і адмовіўся прыняць толькі што прызначанага пасла Швецыі ў ЗША. Гэты дыпламатычны крызіс з часам быў вырашаны, але ўвесь свет быў у захапленні ад мужнай і сумленнай пазіцыі маленькай паўночнаеўрапейскай краіны.

Шведы зусім не нейтральна ставяцца да многіх іншых лакальных канфліктаў. Ужо 33 год ваенныя падраздзяленні гэтай краіны ўдзельнічаюць у міратворчых аперацыях ААН у многіх «гарачых кропках» планеты. За гэты час там неслі цяжкую службу больш як 60 тысяч шведскіх салдат і афіцэраў.

Швецыя заўсёды вызначаецца актыўнасцю на перагаворах па ліквідацыі ваеннай напружанасці ў розных рэгіёнах. Статус нейтральнай краіны і высокі міжнародны аўтарытэт нярэдка дазвалялі ёй дасягаць поспехаў.

Пасля развалу Савецкага Саюза Швецыя адчула сябе адказнай за ўсталяванне і развіццё дэмакратыі ў яго былых рэспубліках. Усе пятнаццаць, зразумела, ахапіць не пад сілу, таму яна ў асноўным засяродзілася на Прыбалтыцы, ці, як цяпер прынята іх называць, балтыйскіх дзяржавах. Сёння Латвія, Літва і Эстонія знаходзяцца пад асаблівым патранажам Швецыі. Яна ўвогуле разглядае рэгіён Балтыйскага мора як зону сваіх галоўных інтарэсаў. Таму не выпадкова Міністэрства замежных спраў ініцыіравала стварэнне ў 1992 г. Балтыйскага інстытута для падтрымкі развіцця і супрацоўніцтва паміж Швецыяй, Літвой, Калінінградам, Польшчай, Германіяй і Даніяй. Інстытут мае статус незалежнага і адна з яго мэтаў — збор і аналіз інфармацыі пра рэгіён Балтыкі.

Цікавяцца шведы і Беларуссю, хаця, праўда, далёка не ў такой ступені, як нашымі заходнімі суседзямі.

Адносіны з гэтай скандынаўскай краінай, на першы погляд, быццам бы ў цэлым і неблагія, а калі браць па вялікаму рахунку, то аніякія. Так, усталяваны дыпламатычныя адносіны, падпісаны ў 1994 г. шэраг пагадненняў: аб гандлёвых узаемаадносінах, аб садзейнічанні ажыццяўленню і ўзаемнай абароне інвестыцый, аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання. І, здаецца, усё больш шырокаму развіццю палітычных і эканамічных кантактаў з Каралеўствам Швецыя замінае тое, што Еўрапарламент па вельмі важнаму для нас пагадненню аб партнёрстве і супрацоўніцтве з ЕС прыняў рэзалюцыю аб прыпыненні яго ратыфікацыі самім парламентам і краінамі — членамі ЕС.

Адсюль мізэрны гандлёвы абарот. Швецыя не ў ліку нашых галоўных дзелавых партнёраў. Сальда ў гандлі для нас неспрыяльнае: імпарт значна перавышае экспарт. Закупляем мы пераважна машыны, абсталяванне, транспартныя сродкі, паперу. Экспартуем да крыўднага мала і вельмі вузкую групу тавараў: трактары, шыны пнеўматычныя, тканіны, напоі, насенне лясных дрэў, ядомыя плады і арэхі. Хаця больш настырныя і прадпрымальныя кітайцы на ёмістым шведскім рынку выдатна прадстаўлены сваімі разнастайнымі спажывецкімі таварамі, якія па якасці не лепшыя за нашы. Умеюць жа!

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## Іван ПРАКАРЫНА



### ЛЁС

*Усміхніся словам, вецер,*
*Тым, што пела нам матуля,*
*Каб жа мы, маленства дзеці,*
*З дзіўнай казкаю заснулі.*
*Апаясаны надзеяй,*
*Як пялёнкамі, уранні*
*Мы чакалі чарадзея*
*У святым, высокім званні.*
*Умываліся расою,*
*Як вадою той, крынічнай,*
*Захапляліся вясною,*
*І яшчэ — цудоўнай znічкай,*
*Каб згадала лёс шчаслівы,*
*Куток раю, а не пекла,*
*І з маленствам клапатлівым —*
*Тая мара не паблекла.*
*Вырываліся на волю*
*Думкі шпаркай маладосці,*
*Спадзяваліся душою*
*І не ведалі, што госці —*
*На Зямлі гэтай цікавай*
*З церпкім пахам чабаровым...*
*Захапляліся не славай,*
*А імгненнем свежым, новым.*
*Год адзін, як гэта многа*
*На людскім шляху жыццёвым,*
*Дзе і радасць, і трывога*
*Вырастаюць промнем кволым.*
*Яго крок шыбуе ў сталасць,*
*А за ёй, за ёй — дарога*
*У святых святую старасць,*
*Дзе самота і знямога.*
*А пасля душа сірочая*
*Мудра крылы распраўляе,*
*І сам хочаш, ці не хочаш —*
*Раптам цела пакідае.*

### ЗАЙЗДРОСНАЯ МАРА

*А час губляецца у снах*
*Таго далёкага спаткання,*
*Што прарасло, жыве каханнем*
*Ў маіх крывіначках-сынах.*
*Хай іх мацуе мірны дзень,*
*Зайздроснай марай сон сагрэты...*
*Іх папяровыя ракеты —*
*Забаў дзіцячых светлы цень.*

### ПРЫЗНАННЕ

*Навошта дзівосаў словы,*
*Дзе хопіць адной цішы.*
*Хай смутак стаіць каляровы*
*І бавяць свой час міражы...*
*Як быць, калі мы, дарослыя,*
*Спавіць не умеем крыўду...*
*Шукай мяне, шчасце роснае,*
*Як знойдзеш — на ганак выйду.*

### ПАЗНАННЕ

*Жыццё вузлы нанізвае на памяць,*
*Турботамі услан яго прасцяг,*
*І нават старасць,*
*поўнай меркі старасць*
*З турботамі застыне у вачах...*
*А ты ідзеш. Збягаюць прад вачыма*
*Сустрэчнага пазнання астраўкі...*
*Паэзія без працы немагчыма,*
*Як немагчымы поціск без рукі.*

### НЕСПАКОЙ СЭРЦА

*Не гавары — губляюцца гады,*
*Паразважай лепш,*
*як яны праходзяць,*
*Якія пакідаюцца сляды*
*І што за ураджаі на іх родзяць.*
*Ці кожны крок — адступка ад бяды,*
*Ці кожны ўзмах —*
*рывок да шчасця ў просінь...*
*Гады мае, прыспешнікі-гады,*
*Вы на спатканне*
*не прыводзьце восень.*
*Бо пастаяць так хочацца з вясной,*
*Бо шмат знаходак абяцае лета...*
*Хай поўніць сэрца вечны неспакой,*
*Якім уся паэзія сагрэта.*

# У ЗАМКУ СЫШЛІСЯ РЫЦАР З МУШКЕЦЁРАМ

**Асабістае маё перакананне: прагматычныя іншаземцы захоўваюць і шануюць сваю спадчыну, у тым ліку найперш архітэктуру, не толькі з-за яе гістарычнай і нейкай матэрыяльнай каштоўнасці. «Застылая музыка» ў выглядзе старажытных замкаў, палацаў, цэлых вуліц і плошчаў з'яўляецца нечым куды больш важкім, чым просты маўклівы сведка-ўспамін пра даўніну; яна нясе подых таго часу, які, несумненна, адчуваюць сучаснікі. Адчуваюць і падпарадкоўваюцца яму. Тое, што мы называем сёння цывілізаванасцю, — ці не галантнасць гэта колішніх дам і кавалераў? Пад скляпеннямі старажытных будынкаў, сярод мноства выдатна захаваных помнікаў сівой мінуўшчыны гэта адчуваеш вельмі добра і... балюча. Ці не таму мы, на жаль, не можам далучыць сябе да цывілізаванага свету, што няма побач такога ж пастаяннага моцнага напаміну, хто мы і што мы...**

У гэтым сэнсе, напэўна, нездарма менавіта Чэхію называюць жывым прыкладам пабудовы цывілізаванай дзяржавы з развітой дэмакратыяй, заснаванай, у прыватнасці, на еўрапейскіх культурных каштоўнасцях і традыцыях. Бо гэта краіна — музей пад адкрытым небам. Што гэта такое, напэўна, больш дакладна і вобразна зразумеюць аматары гістарычнага серыяла «Графіня дэ Мансаро», пастановачныя здымкі якога ажыццяўляліся менавіта ў Чэхіі. Дык вось там старажытныя замкі, багатыя калекцыі зброі і інш. сустракаюцца ледзь не ў кожным гарадку — лепшую натуру для здымак нават уявіць цяжка. Зразумела, акрамя турыстаў сапраўдную цікавасць да ўласнай гісторыі праяўляюць і чэхі. У прыватнасці, гэта любоў да сваёй мінуўшчыны добра бачная на прыкладзе стварэння своеасаблівых клубаў (дарэчы, падобныя ёсць і ў Беларусі), правядзення розных святаў. Сведкам аднаго з іх у гарадку Новае Места пашчасціла стаць і аўтару гэтых радкоў.

... Да афіцыйна аб'яўленага часу пачатку гуляння было яшчэ далёка, а плошчу да старажытнага замка, які сам па сабе, дарэчы, уяўляў велічна-шыкоўную пабудову, ужо пацягнуліся сем'і жыхароў і турыстаў. Ды і было чаго: то тут, то там у натоўпе мільгалі юнакі і дзяўчаты ў сапраўдных касцюмах (выраблены па ўсіх правілах, дакладней, модзе тых часоў) розных эпох. Вось, грукочучы па бруку, прайшлі ва ўнутраны дворык замка закаваныя ў латы рыцары, стайкай прабеглі дзяўчаты-сялянкі ў доўгіх сукенках. З мушкетамі на плячах, памахваючы пер'ямі на капелюшах, ганарліва прайшло падраздзяленне мушкецёраў, а іх таварышы ля ўваходу ў замак пачалі рыхтаваць да стральбы гармату. І яна потым стрэліла, як, дарэчы, страляла і высякала іскры іншая зброя, бо — была сапраўдная! Пакуль жа кожная група, якая паасобку прадстаўляла тую ці іншую эпоху, занялася трэніроўкамі ў розных кутках замка і парка. Вось на траве ўзнік шацёр, побач — дубовыя сталы, і нашчадкі Робін Гуда пачалі мерацца сілай у барацьбе на руках, на палках. Праз алею па-нямецку (падчас Аўстра-Венгерскай імперыі менавіта нямецкая мова была дзяржаўнай на тэрыторыі тагачаснай краіны) аддаваў каманды камандзір мушкецёраў. На прыступках маляўнічай тэрасы зайгралі на дудках скамарохі, запелі песні, затанцавалі. Побач пачалі кідаць нажы ў цэль разбойнікі. Ярусам вышэй ў расшытых золатам мундзірах, паблісквaючы бронзай і срэбрам медалёў, праходжваліся драгуны і ўланы... Дарэчы, не менш за раскошу касцюмаў і сапраўднасць зброі прыемна ўразіла добразычлівасць юнакоў і дзяўчат, большасці з якіх было 20—25 гадоў. Кожны з іх адгукаўся на просьбу сфатаграфавацца разам, ці націснуць на спуск апарата, адказваў на пытанні. Можна зняцца на памяць каля гарматы? Калі ласка, станьце сюды — тут від лепшы. Патрымаць у руках мушкет? Бяры, калі ўтрымаеш, бо цяжар, сведчу, унушальны. Уражанне, што калі б прыйшла ў галаву думка папрасіць стрэльнуць, напэўна, не здолелі б адмовіць.

На адным з ярусаў нечакана сустракаем маладога чэха ў старажытнай форме... рускага воіна. На ківеры — двухгаловы арол, на мундзіры — тагачасныя ўзнагароды за паходы і бітвы. Аказваецца, калісьці рускія войскі выступалі ў якасці саюзнікаў, і ў знак павагі памяць аб гэтым захоўваюць і па сённяшні дзень.

А між тым з іншага боку замка, ля старой сцяны, ужо пачалі гандаль сувенірамі старажытныя рамеснікі. Тут табе і жаночыя ўпрыгажэнні, і фігуркі рыцараў, гарматы, кубкі, амулеты... Усё зроблена сваімі рукамі з дрэва, скуры, волава, медзі і каштуе танна — 20—80 крон. Побач — гандляр халоднай зброяй. Сапраўдныя кінжалы, нажы, шпагі, мячы. Цэны таксама прымальныя (вельмі спадабаўся прыгожа аздоблены кінжал за 400 крон — гэта прыкладна нашых 400 тысяч рублёў). Гандляр гатовы прама на месцы выпісаць (значыць, мае дазвол?) даведку для мытні на права вывазу рэчы з краіны.



***Самы старажытны мост у Празе — славуты Кралаў мост — пабудаваны ў далёкім XIV стагоддзі, але і сёння ён спраўна служыць людзям.***

Тут жа размешчана і кузня, дзе некалькі работнікаў на вачах гледачоў вырабляюць кальчугі, латы, мячы. У двух кроках, у цяні вартавой вежы, відовішча не для слабанервовых — тут размясцілі і дэманструюць свае прылады... каты. Гільяціна, кандалы, сякеры і інш. Як ні дзіўна, яны выклікаюць найбольшую цікавасць у слабай палавіны чалавецтва: ці не кожная другая дзяўчына імкнецца сфатаграфавацца менавіта тут. Каты, усміхаючыся, заносяць над галавой ахвяры цяжкую сякеру... Шчоўк! Наступная...

Тым часам ля ўваходу грыміць гармата. Рэха стрэлу абвяшчае аб пачатку свята. Білеты каштуюць танна — каля 30 крон, таму гледачоў збіраецца шмат. Цяпер галоўнае — спрытна бегаць, бо падзеі адначасова разгортваюцца паўсюдна, а паглядзець хочацца ўсё: як сякуцца двуручнымі мячамі волаты-рыцары, як звініць сталь клінкоў мушкецёраў. Дарэчы, кожны жадаючы таксама можа прыняць удзел у гульнях. За гэта выдаюцца спецыяльныя жэтоны, і потым таму, у каго іх назбіраецца больш, уручаць прыз. Але доўга стаяць на месцы немагчыма, бо паветра ажно ўзрываецца ад стрэлаў мушкетаў. Страляюць, зразумела, халастымі, аднак гук нагадвае выбухі бомбаў — уплывае паўзамкнутая прастора і адсутнасць ветру.

...Васьмёрка мушкецёраў засыпае ў мушкеты порах, утрамбоўвае яго. Па камандзе загараюцца кнаты, першы рад становіцца на калена, другі цэліцца стоячы і — залп! Стралкоў амаль хавае сцяна сіняга дыму, а ў гледачоў, што стаяць крыху на ўзвышшы, метраў за восем—дзесяць, побач з маляўнічымі скульптурамі, што ўпрыгожваюць парк, уражанне, што іх толькі што расстралялі. Каб неяк ачомацца, лепш паслухаць, як граюць на дудках і забаўляюць фокусамі скамарохі. Ці яшчэ лепш — палюбавацца велічным краявідам замка, які адкрываецца знізу, з парку. Усе гэтыя ўражанні, разам узятыя, на нейкі час ствараюць ілюзію таго, што ты апынуўся ў іншым часе, у іншым жыцці. Адчуваеш сябе зусім іначай, нібы скінуўшы нейкі цяжар штодзённых клопатаў. Банальна, але думаць хочацца і рабіць толькі добрае.

...А што ж арганізатары свята? Пэўная частка зробленых ад продажу білетаў грошай пойдзе на аплату арэнды замкавых плошчаў (большасць з іх — прыватныя, і ўладальнікі ідуць насустрач падобным мерапрыемствам, бо абавязаны самастойна ўтрымліваць і рэстаўраваць гэтыя будынкі), нешта выдаткуецца на ўнутраныя праблемы клуба, а нешта, магчыма, і на куфаль добрага піва ў «Замкавым склепе» побач. Захаваны глыбока пад зямлёй, з вялікай гарматай ля ўваходу і мячамі на сценах, ён падорыць працяг гэтага цікавага свята...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

**Дзе ў хваляванні і турботах, дзе ў працы і адпачынку, дзе ў напружаным чаканні праходзілі дзевяць месяцаў цяжарнасці. Наступаў самы адказны момант.**

**Роды хоць і былі даволі звыклай з'явай у дарэвалюцыйнай сялянскай сям'і, усё ж уносілі хваляванні ў штодзённы ўклад жыцця. Да парадзіхі звалі бабку-павітуху муж, свякроўка ці іншая замужняя жанчына, але не дзяўчына.**

# ПАРАДЗІЛА СЫНОЧКА, ЯК ЯСНАГА САКАЛОЧКА...



**Вёска Жыцін. Сялянка корміць дзіця ў калысцы на сенажаці (*1915 год*).**

**З**ГОДНА З НАРОДНЫМІ ЎЯЎЛЕННЯМІ, аб наступіўшых родах павінны былі ведаць як мага менш людзей, тады роды пройдуць лёгка. Асабліва вялікія пакуты парадзісе, па народнаму меркаванню, магла прынесці дзяўчына. Калі яна незнарок заходзіла ў час родаў у хату, то павінна была расплесці касу, набраць вады ў рот і даць парадзісе, бо інакш роды будуць вельмі цяжкімі. Таму месцам для родаў выбіралі пустую хату, лазню, гумно, варыўню. У некаторых месцах Беларусі існаваў вельмі старадаўні, на наш погляд, звычай. Цяжарная жанчына, калі наступаў час родаў, вярталася ў хату сваіх бацькоў і там жыла яшчэ 6—8 дзён пасля родаў.

Калі накіроўваліся да павітухі, адразалі кавалак хлеба, пасыпалі яго соллю. Прыйшоўшы, гаварылі ціхенька: «Хадзі, бабулічка, к нам, нешта нашай маладусе ня дужа ладна дзелаецца». Звычайна баба-павітуха тут жа адклікалася на такую просьбу, што вельмі добра і з гумарам адлюстравана ў беларускай радзіннай паэзіі:

*То й не стук стучыць,*
*То й не грук гручыць*
*Па сенечках, да па новенькіх,*
*То Кірылка ідзець да бабусечкі,*
*А бабусечка дагадалася,*
*Паскарусенька ўбіралася*
*У адном чобаце да й без пояса,*
*У руках нясець да пялёначкі.*

У канцы мінулага стагоддзя ў беларускай вёсцы бабай павітухай была звычайна жанчына сталага веку, часцей за ўсё ўдава, якая сама перастала раджаць. У тагачасных умовах баба-павітуха была і акушэркай, і дзіцячым доктарам, і дарадчыцай парадзіхі, і памочніцай ёй па гаспадарцы ў першыя дні пасля родаў. Адсюль тая павага да бабкі, асабліва калі яе майстэрства знаходзіла пастаяннае пацвярджэнне ў паспяховым зыходзе родаў.

Павітуха дапамагала парадзісе як магла. Акрамя чыста утылітарных, акушэрскіх прыёмаў, якія мелі рацыянальную аснову, яна выконвала шэраг магічных дзеянняў, заснаваных на веры ў звышнатуральныя сілы. На парадзісе расшпілялі ўсе гузікі, развязвалі вузлы, паясы, расплятылі косы, адкрывалі ўсе замкі, куфры, дзверы ў хаце. Бабка шаптала замовы, пастуквала венікам у столь, як бы звяртаючыся па дапамогу да дамавіка, вадзіла парадзіху тры разы вакол стала і праз ганак, якія лічыліся ў народзе свяшчэннымі месцамі хаты. Паўсюль на Беларусі, каб адагнаць злыя сілы ад парадзіхі, павітуха клала ёй у ложак металічны прадмет, або абвязвала яе чырвонай ніткай. Дзейсным сродкам аблягчэння пакут парадзіхі лічыўся наступны: зняць з дзяжы абруч і надзець яго тры разы на парадзіху зверху ўніз. Пры цяжкіх зацягнутых родах прасілі святара адчыніць царскія дзверы. На Беларускім Палессі ў час родаў жонкі муж ляжаў на лаўцы і цяжка стагнаў, чым, па народнаму перакананню, аблягчаў пакуты сваёй жонкі.

Павітуха ніколі не прымала дзіця голымі рукамі, а накрывала іх якім-небудзь старым адзеннем, каб у будучым дзіця жыло ў багацці. Бабка перавязвала пупавіну паўсюль на Беларусі аднолькава: пучком чыстага лёну або суровай ніткай, зрэдку да лёну дабаўлялі адну чырвоную нітку. Пераразалі пупавіну на адлегласці трох пальцаў ад перавязкі: хлопчыку — на нажы, сякеры, дубовай кары, сухой лустачцы хлеба, на кніжцы, малатку. Часта ў паўночных раёнах Беларусі пупавіну хлопчыка перабівалі камянямі, каб быў моцны. Дзяўчынцы перавязвалі пупавіну на грабяні, верацяне, нітках, кручках, ножніцах. Сэнс, які быў закладзены ў гэтых абрадавых дзеяннях, указваў на іх сувязь з земляробчым бытам народа, з існаваўшым у далёкім мінулым падзелам працы па полу.

Часам жартам, а часам усур'ёз вопытная павітуха загортвала хлопчыка ў жаночую сарочку, каб яго, як падрасце, кахалі дзяўчаты, а дзяўчынку — у мужчынскую, каб яе ў адпаведным узросце кахалі хлопцы. Нованароджанага адразу купалі ў розных лекавых духмяных травах, а каб быў багаты і шчаслівы, у ваду клалі сярэбраную манету і некалькі зярнят. У купель для дзяўчынкі дабаўлялі яшчэ крышачку малака, каб была белая тварам і прыгожая. А вось у гатаванай вадзе на Беларусі дзяцей не купалі, бо верылі, што яны ад гэтага будуць вельмі злымі, крыклівымі, няўважлівымі. Пра такіх людзей у народзе гаварылі: «Ён у гарачай вадзе купаны». Ваду пасля першага купання вылівалі ў ціхім месцы, дзе не хадзілі людзі і жывёла, часцей пад пладовае дрэва, ці пад вугал хаты. На Палессі, калі купалі дзяўчынку, ваду вылівалі на ганак, каб яна, стаўшы дарослай, хутчэй выйшла замуж. Шырокае распаўсюджанне на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў мінулым стагоддзі мела павер'е, што калі дзіця пасля першага купання пакласці на правы бок, яно ў далейшым усё будзе рабіць правай рукой («будзе праўшаком»), а калі на левы — то, наадварот, усё будзе рабіць левай рукой («будзе леўшаком»).

Пэўныя абрадавыя дзеянні здзяйсняліся і пры першым укладанні дзіцяці ў калыску, каб, па народнаму меркаванню, забяспечыць здароўе і спакойны сон немаўляці. Так, паўсюль на Беларусі, каб адагнаць ад дзіцяці злыя сілы, у калыску клалі вугольчык, хлеб-соль, жалеза,ката. Шырокае бытаванне ў нашым краі мела вераванне, згодна з якім нельга было калыхаць пустую калыску, бо лічылася, што дзіця памрэ.

Управіўшыся з дзіцем, павітуха працягвала завіхацца каля парадзіхі. Паслед («дзіцячае месца») бабка абмывала і загортвала ў чыстую анучку, укінуўшы туды яшчэ некалькі зярнят ці кавалачак хлеба. Далейшыя дзеянні павітухі вынікалі з цвёрдага перакanання, веры ў тое, што, аказаўшы ўздзеянне на паслед, можна станоўча ці адмоўна паўплываць на само дзіця. Таму паслед акуратна закопвалі: калі нараджаўся хлопчык, то каля хаты, пад ганкам, або ў хаце на куце, каб, як лічылі, перадаць яму любоў да роднага дома; калі дзяўчынка — то пад яблыняй, вішняй, каб была такая ж прыгожая, або пад прыпечкам, каб была добрая гаспадыня. Часта дзіцячае месца закопвалі ў хляве, каб павялічыць пладавітасць жывёлы. Пазней сталі хаваць за абразы, каб «дзіцяці быў гонар», або закопвалі ў варыўні пад жорны, каб «дзіця было вёрткае і хітрае».

У мінулым на Беларусі шырокае распаўсюджанне мелі разнастайныя спосабы і прыёмы варажбы аб будучым лёсе дзіцяці ў першыя дні пасля яго нараджэння. Самым надзейным знакам шчасця і дабрабыту была, па народнаму меркаванню, так званая «дзіцячая сарочка» — рэшткі плоднага пузыра, які ў выглядзе тонкай плеўкі часам заставаўся ў нованароджанага на галоўцы. Яе акуратна здымалі і захоўвалі як талісман. Пра людзей, якім вельмі шанцуе ў жыцці, нездарма казалі і дагэтуль кажуць: «нарадзіўся ў сарочцы».

Вельмі разнастайнай і багатай была сістэма варажбы аб будучым лёсе дзіцяці ў залежнасці ад дня нараджэння дзіцяці. У панядзелак, па народнаму ўяўленню, нараджаюцца няўмекі, у якіх усё з рук валіцца («ім і ступень па пень»). Такіх людзей чакала беднае гаротнае жыццё. У аўторак, лічылі беларускія сяляне, нараджаліся вельмі працавітыя людзі, якім шанцавала ў вытворчых справах. У сераду, былі ўпэўненыя ўсе навокал, нараджаюцца людзі з неакрэсленым лёсам — «ні тое, ні сёе». Такі чалавек мог і разбагацець, але потым растраціць сваё багацце і памерці ў вялікай беднасці. Вялікую ўцеху прыносіла бацькам дзіця, якое нарадзілася ў чацвер: яно хутка пачынала хадзіць, гаварыць, праяўляла кемлівасць і спрыт ва ўсіх справах, але такому дзіцяці прадказвалі хуткую смерць. Лайдакі, зладзеі і горкія п'яніцы, па народнаму меркаванню, нараджаліся ў пятніцу. Тыя дзеці, што нарадзіліся ў суботу, лічыліся шчаслівымі і ўдачлівымі. У нядзелю ж нараджаліся самыя шчаслівыя людзі, якім ва ўсіх справах спадарожнічалі шанцаванне і поспех.

Некаторыя прыметы і павер'і былі звязаны з парой года, у якую нарадзілася дзіця, або калі дзень нараджэння супадаў з якім-небудзь вялікім святам. Так, беларускія сяляне лічылі, што ў тых, хто нарадзіўся вясною і летам, будзе вясёлае, бесклапотнае жыццё. Калі хто нарадзіўся восенню, таму прадказвалі суровы, маўклівы характар, зімой — халодныя, нядобразычлівыя адносіны да людзей. Лічылі, што тым людзям, якія нарадзіліся на Узвіжанне, давядзецца ўсё жыццё пакутаваць і мучыцца; дзеці, што нарадзіліся на Івана Галавасека, вырастуць пасля разбойнікамі; тым, хто нарадзіўся на Каляды або на Дзяды, прадказвалі недаўгавечнасць; дзеці, якія нарадзіліся на Спаса, павінны былі, па народнаму меркаванню, стаць манахамі.

Шчаслівым лічылася дзіця, у дзень нараджэння якога ў гаспадарцы быў прыбытак або прыплод. Шчаслівы лёс прадказвалі дзіцяці, якое нарадзілася на вялікае свята, а таксама хлопчыку, знешне падобнаму на маці, і дзяўчынцы, падобнай на бацьку.

**Таццяна КУХАРОНАК.**

***ЗІМОВЫ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР***

# ЛЮТЫ

## (Другая дэкада)



***У гэтым календары першая лічба азначае дату па новаму стылю, а другая — па старому (юліянскаму летазлічэнню, якім карыстаецца праваслаўная царква): 1/19 — 1 лютага па н. ст., 19 лютага па с. ст.***

***Назвы свят і прысвяткаў, якія бытавалі ці бытуюць сярод праваслаўных беларусаў, выдзелены паўтлустым шрыфтам, а сярод католікаў-беларусаў — курсівам.***

**11/29. ІГНАТ.** Праз некалькі дзён наступяць Грамніцы, а Ігнат іх сустракае, таму і кажуць у народзе: «Ігнат Грамніцам рад».

Назва ў народным календары паходзіць ад свяшчэннапакутніка Ігнацiя Баганосца. Епіскап, пакутнік за веру Хрыста, быў асуджаны падчас царавання Траяна на смерць цераз разарванне дзікімі звярамі на народным відовішчы. Царкоўны каляндар таксама адзначае памяць свяціцеля Лаўрэнція Тураўскага, затворніка Пячэрскага, епіскапа Тураўскага (памёр у 1194 г.) і іншых.

**12/30 ТРЫ СВЯЦІЦЕЛІ.** У народзе яшчэ называюць Васіля ды Рыгора. У царкоўным праваслаўным календары — дзень Трох святых: Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова, Іаана Залатавуста. У гэты прысвятак не пралі.

**13/31.** У некаторых раёнах перад Грамніцамі адзначалі Стрэчаньскія Дзяды.

**14/1. ТРЫФАН.** Назіралі за прыродай, зоркамі. «На Трыфана зорна — вясна позняя». Гэты ж дзень — і **ГРАМНІЧНЫ БАЦЬКА,** бо заўтра ўжо Грамніцы. Да іх рабілі свечкі з асенняга воску. У Віцебскім і Полацкім паветах у гэты дзень, апошнюю суботу перад Грамніцамі, рыхтавалі «ахвярныя» грамнічныя свечкі са свайго воску.

***Валянцін***. Амаль для ўсяго свету дзень святога Валянціна — свята закаханых. Згодна з адной легендай, яно ўсталявалася ў гонар пакарання смерцю ў гэты дзень (III стагоддзе) рымскага святара і лекара Валянціна, які насуперак указу жорсткага імператара Клаўдзія II тайна вянчаў закаханых, у якіх наперадзе была служба ў войску. Існуюць і іншыя версіі ўзнікнення свята, а таксама шмат традыцый яго святкавання: англійская, аўстрыйская, амерыканская, шведская, іспанская, італьянская, французская, германская, японская ды інш. Расія ды Польшча да еўрапейскай традыцыі святкавання прыйшлі нядаўна. Развіваецца гэты вясёлы маладзёжны звычай і ў Беларусі. Раней у беларусаў католікаў Валянцін быў звычайным прысвяткам земляробчага календара.

***15/2. ГРАМНІЦЫ (Грамнічнік, Стрэчанне, Устрэчанне)*** — дзень сустрэчы зімы з летам, свята свечкі і «жывога агню», што, паводле язычніцкіх вераванняў, абараняе чалавека ад злых духаў. У хрысціянскі перыяд васковыя свечкі пачалі асвячаца ў царкве. Яны захоўваліся ўвесь год.

У некаторых мясцінах усе, хто хадзіў на заробкі, да Стрэчання спяшаліся вярнуцца назад, і гаспадары пачыналі рабіць, аглядаць, рамантаваць прылады, патрэбныя для вясновых заняткаў (Ашмянскі павет).

**18/5. АГАТА.** Прысвятак прысвечаны каровам, у Расіі называецца Агаф'я Кароўніца. Асвячалі хлеб з соллю, які затым натыкалі жывёле на рогі, каб не баялася сурокаў. Хлеб той нібы дамагаў таксама адводзіць пажар. Названы ў гонар святой пакутніцы Агаф'і (пам. у 25 г.) з Сіцыліі. На допыце верную хрысціянку мучылі: раздзіралі кіпцюрамі грудзі, затым адрэзалі саскі. Але здарыўся цуд: яны зноў з'явіліся, бо ў цямніцу да яе з'явіўся святы Пётр і праз нейкі час у горадзе пачаўся землятрус.

**19/6. ВАКУЛЫ.** На Палессі лічылася, што Вакула ахоўвае ад ператварэння ў ваўкалакаў. Аб існаванні легенд аб гэтых пярэваратнях яшчэ пісаў старажытнагрэчаскі гісторык Герадот. У Беларусі іх існуе нямала. У рускіх вядомы як прысвятак Вуколы Цялятнік, з якога пачынаецца веснавы ацёл кароў.

У царкоўным календары — прападобны Вукола, епіскап Смірнскі (каля 100 г.).

**Алесь ЛОЗКА.**

# Беларускі народна-асветніцкі каляндар

### 10 ЛЮТАГА.

65 гадоў таму (1923) пры медфаку БДУ адкрылася хірургічная клініка.

70 гадоў з дня нараджэння (1928) М. С. Высоцкага, вучонага ў галіне машынабудавання, акадэміка АН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі.

55 гадоў з дня нараджэння (1943) М. А. Тычыны, пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка.



Шчыры дзякуй загадчыцы аддзела сацыяльнага забеспячэння г. Жлобіна **Наталлі Мікалаеўне КРУТАШОВАЙ** і супрацоўніку аддзела **Галіне Андрэеўне ЮШКАВЕЦ** за чулыя, уважлівыя адносіны і дапамогу адзінокім пенсіянерам.

**Т. М. ШУЛЬГА**, *г. Жлобін.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. **ФАКС**: 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 618.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12